НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 16 (805) 24 красавіка 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Мадэрнізацыя 59 разоў

Памянялі **лібералізацыю на мадэрнізацыю**. Але сутнасць палітыкі праз гэта не мяняецца. **Старонка 3.**



**На фота ў ружовых колерах: адкрыццё выставы TIBO. Злева направа: намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў, віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін, дзяржсакратар саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота, міністр сувязі Мікалай Панцялей.**

## Здарэнні

### 31-гадовы атруціўся коранем цыкуты

Шарамет быў маладафронтаўцам і МНСнікам. **Старонка 5.**



## Закуліса

### Хто там «топчацца каля Ладуцькі ці Лукашэнкі»?

Павел Белы — забудоўшчык сталіцы. **Старонка 6.**



## Гутарка

### Лабадзенка: Я быў эгаістам, я ім і застаўся

Чым больш чалавек зрабіў, тым менш ён хваліцца. **Старонка 9.**



## Тэатр

### «...Штосьці будзе, штосьці будзе»

У Мінску паставілі «Дзядоў» Адама Міцкевіча. **Старонкі 10—11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Як Ярмошына перамыла костачкі сваім праціўніцам

**На адкрыцці выставы ТІВО-2013 кіраўніцтва ЦВК працягвала кулуарную барацьбу за адмену сельскіх саветаў народных дэпутатаў.**



Лідзія Ярмошына ўсміхаецца.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У Мінску пачалася штогадовая выстава тэхнікі ТІВО-2013, аб'яднаная з іншай выставай, «СМІ ў Беларусі». Сярод урачыстых гасцей вылучалася заўсёдніца сталічных выставаў старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына. У адным з інтэрв'ю яна адзначала, што карыстаецца электроннымі кнігамі. Таму, відаць, і прыйшла на ТІВО.

Убачыўшы сакратара Цэнтральнай выбарчай камісіі Мікалая Лазавіка, яна расплылася ў шчаслівай усмешцы. «Яна вас цэлую гадзіну шукала», — паведаміў адзін з кампаньёнаў Ярмошынай. «Не можа быць! — здзівіўся Лазавік і адразу ж праверыў мабільнік. — Ага, адзін прапушчаны».

Ярмошына выдала жарт па тэме выставы. «Чыталі, як Губерман сказаў? Што такое гаджэты? Тэхніка? Я з новенькага хутка набуду слыхавы апарат!» Лазавік зарагатаў разам з ёй.

Тым часам слова ўзяла вядучая цырымоніі Алена Спірыдовіч, якая пачала клікаць на сцэну гасцей — віцэ-прэм'ера Калініна, намесніка кіраўніка адмістрацыі Радзькова, міністра сувязі Панцялея...

Аднак дэлегацыі з ЦВК было не да тэхнікі. Ярмошына і Лазавік пачалі гучна абмяркоўваць сітуацыю з саветамі сельскіх народных дэпутатаў. Нагадаем, Ярмошына выступае за іх ліквідацыю, бо ахвотных быць дэпутатамі небагата. Паўнамоцтвы саветаў яна мяркуе перадаць мясцовым уладам. Аднак сярод уплывовых чыноўнікаў і дэпутатаў яе ідэю падтрымліваюць не ўсе.

«Ну што ўзяць з гэтага Іванчанкі? Стары артадокс!» — паставіла дыягназ Ярмошына.

Яе суразмоўца са значком кампартыі на пiджаку захіхікаў. Мікалай Іванчанка — дэпутат ад Стаўбцоўшчыны, які, відаць, выказваецца за захаванне саветаў. Дарэчы, нарадзіўся ён у вёсцы Александрыя Шклоўскага раёна.

Гутарку падтрымаў і Лазавік, які працягваў перамываць косткі праціўнікам. «Рубінаў — кабінетны тэарэтык», — безапеляцыйна заявіў ён.

Лазавік расказаў, што Рубінаў напісаў дакладную на імя Лукашэнкі, аднак той толькі паглядзеў на паперу краем вока і загадаў далучыць да справы. Таму, маўляў, меркаванне Рубінава не такое і ўплывовае.

Ярмошына ж працягвала абурацца тымі, хто ні разу не быў у рэгіёнах, а таму не ведае, з якімі праблемамі сутыкаюцца сельскія саветы. «Хто будзе за бясплатна працаваць?» — рытарычна запыталася яна.

На думку Лазавіка, гэтыя саветы патрэбныя толькі іх непасрэдным начальнікам. «Баяцца, што кіраваць не будзе кім», — паздзекавалася Ярмошына, уставіўшы ў гаворку слова «кіраваць» менавіта па-беларуску.

На сцэне тым часам віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін саступіў слова Аляксандру Радзькову. «Няправільна гэта. Усё ж зварот ад прэзідэнта павінен быць спачатку», — захвалявалася Ярмошына. Цікава, што кіраўніка дзяржавы яна не называла ні па прозвішчы, ні па імені з імем па бацьку. Толькі «прэзідэнт».

«А як расшыфроўваецца гэтае ТІВО?» — задаўся пытаннем Лазавік. Суразмоўцы пачалі падбіраць пад абрэвіятуру словы. «Тэхнічны?» «Інфармацыйны»? «Б?..» Угадаць слушны варыянт так і не ўдалося. Мусіла атрымацца нешта накшталт «Тэлекамунікацыі, інфарматыка, сувязь, бяспека, банк, офіс».

Шэрагі прыхільнікаў адмены сельскіх саветаў дэпутатаў працягвалі таяць. Аказалася, што за іх захаванне выступіў і губернатар Гродзеншчыны Сямён Шапіра. «Па-мойму, Шапіру ўсё адно, ён жа прамысловец», — выказала здагадку Ярмошына і адразу ж азадачылася пытаннем, хто мог паўплываць на думку губернатара, былога старшыні агракамбіната. У Лазавіка кандыдатур не знайшлося.

«Гэта ўсё палітычнае пытанне», — падсумавала Ярмошына. Перамылі суразмоўцы костачкі і адной высокай чыноўніцы. «Яна ж цынічная прагматычная жанчына», — ці то пахваліла, ці то асудзіла яе Ярмошына.

Тым часам урачыстая цырымонія адкрыцця скончылася, да дэлегацыі ЦВК падскочыў праважаты і пачаў экскурсію па стэндах ТІВО-2013 для дарагой госці.

**Віталь Несцераў**

## Сцісла

### Калінкіна: Палітвязняў вызваляць на Вялікдзень

Такое меркаванне рэдактарка «Народнай волі» выказала ў праграме «Два на два» тэлеканала «Белсат». Летась на Вялікдзень з няволі выйшлі Андрэй Саннікаў і Зміцер Бандарэнка.

### Сумар занепакоены

Затаваранасць прадукцыяй некаторых прадпрыемстваў Брэсцкай вобласці набывае пагрозлівыя памеры. Пра гэта заявіў старшыня вобласці Канстанцін Сумар на пасяджэнні аблвыканкама.

### Вінаградаву — 12 сутак

Актывіста кампаніі «Гавары праўду» і «Zмена» асудзілі за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга і партрэта Статкевіча на Нямізе.

### Толькі два легіянеры

У наступным сезоне беларускім камандам будзе дазволена мець у сваім складзе не больш за двух легіянераў. Пра гэта на пасяджэнні Федэрацыі хакея абвясціў старшыня арганізацыі Яўген Ворсін.

### Бацька і сын хацелі завалодаць Дзяржынскай ЖКГ

У Дзяржынску распачатая крымінальная справа ў дачыненні да галоўнага інжынера УП «Дзяржынская ЖКГ» і яго сына, які працуе галоўным інжынерам у падраднай арганізацыі ТАА «Смартбіз». Як адзначаюць следчыя, такая карупцыйная схема даволі распаўсюджаная. Службовыя асобы дзяржпрадпрыемстваў завязваюць цесныя адносіны з камерцыйнымі падраднымі арганізацыямі, дзе балем кіруюць іх найбліжэйшыя сваякі. На ўзроўні сваякоў заўсёды працей дамовіцца пра адкаты, завышэнне кошту работ, атрыманне выгаднага заказу ў абыход конкурсных працэдур.

**ЛМ**

## Апытанне на nn.by

**Ці ў Вашай сям'і садзяць бульбу (на дачы ці ў вёсцы)?**



| | | |
|---|---|---|
| Так | 565 | 64% |
| Не | 193 | 22% |
| Сімвалічна | 126 | 14% |

Усяго прагаласавала 884 чалавекі.

# Латвія заклікае да дыялогу з лукашэнкаўцамі

Міністр замежных справаў гэтай краіны Эдгарс Рынкевічс прапануе запрасіць Макея на сустрэчу міністраў замежных спраў краін «Усходняга партнёрства».

«Беларусь павінна палепшыць сітуацыю ў сферы выканання палітычных свабодаў і каштоўнасцяў, а ЕС, ацаніўшы яе прагрэс у гэтай сферы, — аднавіць палітычны дыялог з Беларуссю і актывізаваць практычнае супрацоўніцтва ў розных галінах», — заявіў латвійскі міністр.

Міністры замежных спраў Беларусі і Латвіі Уладзімір Макей і Эдгарс Рынкевічс сустрэліся 10 красавіка ў Віцебску.

Макей уваходзіць у спіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС.

**Радыё «Свабода»**

## Рэкамендуем

### Топ-5 жахлівых гісторый з беларускай гісторыі

Крывавае забойства князя Жыгімонта, канібалізм у Крамлі, хрышчэнне мёртвага бацькі, вядзьмак Максім Знак, замураваная жанчына. Чытайце на nn.by.

## Самае чытанае на nn.by за 17 — 23 красавіка 2013

1. «Увесь беларускі народ у бамжаватым выглядзе»
2. Лукашэнка з'явіўся на экране з рассечанымі вуснамі
3. Лукашэнка: Ну не саспелі мы да галубізны, пачакайце крыху!
4. Беларус нырнуў у Свіслач за 100 баксаў — відэа
5. «Гэта Лукашэнка? Ой-ёй-ёй» — мінчукі каментуюць «Прэс-фота»
6. Міхал Шарамет атруціўся коранем цыкуты падчас паходу
7. «Хто такі Ленін?» — «Можа пісьменнік?» — відэаапытанне ў Мінску
8. У чацвер будзе прысуд па справе аб «экстрэмісцкіх фота»
9. Украіна крытыкуе жарт Івана Урганта
10. Віктар Марціновіч: Што я ненавіджу ў мінскіх кафэ

# Памянялі лібералізацыю на мадэрнізацыю

Але сутнасць палітыкі праз гэта **не мяняецца**.

Сёлетні зварот Аляксандра Лукашэнкі да нацыянальнага сходу і народа быў рэкордна кароткі — усяго 2,5 гадзіны.

Асноўным словам сёлетняга выступу была «мадэрнізацыя». Падавалася яна пад рознымі соусамі. «Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што мадэрнізацыя ў краіне пачалася даўно», — грымеў Лукашэнка з трыбуны.

Цікава, што яшчэ год таму кіраўнік краіны казаў: «У бліжэйшай перспектыве трэба будзе засяродзіць намаганні на некалькіх асноўных кірунках, у першую чаргу мадэрнізацыі эканомікі».

Насамрэч слова «мадэрнізацыя» стала даносіцца з тэлівізара толькі ўвосень 2012-га. Фактычна, па часе гэта цалкам супала з запускам еўрасаюзаўскай праграмы «Дыялог па мадэрнізацыі Беларусі», якая з'явілася ўлетку.

Пасля гэтага раптоўна большасць новаўвядзенняў стала прынята называць «мадэрнізацыяй». Усталёўваюцца на ферме новыя даільныя апараты — «мадэрнізацыя». Новыя станкі на дрэваапрацоўцы — «мадэрнізацыя». Хаця адбывалася гэта ўсё і да палітыкі «мадэрнізацыі», толькі так пафасна не называлася.

Фактычна, Лукашэнка спрабуе прадаць гэтае слова, як некалі было з лібералізацыяй.

У пасланні 2009 года Лукашэнка казаў: «Нашы ўмовы па лібералізацыі эканомікі ўжо прынеслі вынікі... Лібералізацыя — гэта шлях да хаосу... Мы найперш гаварылі пра эканамічную лібералізацыю...»

Тады Беларусь спрабавалі ўцягнуць у праграму «Усходняга партнёрства», і палітыка «лібералізацыі» добра да гэтага пасавала. Праўда, можна адсачыць, што з гадамі гэтае слова паціху цалкам знікла з пасланняў кіраўніка краіны. Ці




не паўторыцца тое самае са славутай мадэрнізацыяй, якую загадана закончыць да 7 лістапада? Прынамсі, у дрэваапрацоўцы. Да 7 лістапада любілі збудаваць, выканаць, распрацаваць штосьці такое ў савецкі час.

Расію сёлета Лукашэнка ўзгадваў не так часта. Сказаў, што не дае дазволу на прыватызацыю МАЗа, а таксама, што ўсходняя суседка, а не толькі МВФ і Еўрасаюз, патрабуе эканамічных рэформ. Найчасцей Расію Лукашэнка ўзгадваў у 2010, калі адносіны горшалі. І было незразумела, ці падтрымае Расія Лукашэнку на выбарах. Тады ж было найболей і згадак Еўропы.

А вось пра «пятую калону» Лукашэнка ўзгадваў найбольш у 2011, калі эканамічная сітуацыя ў краіне была найгоршай. Была вялікая рызыка незадаволенасці сярод насельніцтва. Хоць большасць лідараў апазіцыі тады сядзела ў турмах.

На беларускую мову кіраўнік краіны пераходзіць найбольш для здзеку, калі перакрыўлівае сваіх палітычных апанентаў. У 2010 такіх пераходаў было аж восем. Вядома, у той год адбываліся прэзідэнцкія выбары. І ішла віртуальная — на дэбаты Аляксандр Лукашэнка не рашыўся — спрэчка з супернікамі.

Ну і, нарэшце, слова «нахіліць» апошнія гады Лукашэнкам ужываецца нашмат радзей. У ключавыя 2010—2011 такая лексіка была часцейшай.

**Зміцер Панкавец**

**Колькі разоў Аляксандр Лукашэнка ўжываў дадзеныя словы ў зваротах да нацыянальнага сходу**

| Словы/год | 2013 | 2012 | 2011 | 2010 | 2009 |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларусь | 57 | 120 | 73 | 105 | 110 |
| Еўропа | 21 | 21 | 24 | 39 | 43 |
| Расія | 23 | 21 | 16 | 76 | 35 |
| Мадэрнізацыя | 59 | 3 | 9 | 9 | 3 |
| Дзяржава | 57 | 100 | 72 | 105 | 80 |
| Пятая калона | 2 | 1 | 6 | 1 | 0 |
| Валюта | 10 | 10 | 14 | 4 | 9 |
| Газ, нафта | 10 | 5 | 17 | 31 | 4 |
| Нахіліць | 2 | 1 | 5 | 5 | 0 |
| Лібералізацыя | 0 | 1 | 1 | 5 | 11 |
| Пераходзіў на беларускую мову | 0 | 0 | 2 | 8 | 0 |

**Прызначэнні**

## Пяць фактаў пра міністра Патупчыка

**Новы міністр энергетыкі** ў свой час насмерць збіў чалавека.

### Адмяніў льготы

У 55-гадовага Патупчыка гэта ўжо не першая праца на пасадзе міністра. Ад 2006 да 2009 ён узначальваў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Менавіта ў той час была адменена большасць ільгот (для студэнтаў, чарнобыльцаў, іншых катэгорый грамадзян). Патупчыку даводзілася быць на пярэднім краі тых непапулярных рашэнняў. «Ільготы — найбольш неэфектыўная і затратная форма сацыяльнай падтрымкі грамадзян», — казаў тады Патупчык. Супраць прагаласаваў усяго адзін дэпутат палаты. А ў савеце рэспублікі прыняцце таго закона заняло чатыры хвіліны.

### Стаў віцэ-прэм'ерам

Пасля Патупчыка павысілі аж да віцэ-прэм'ера, адказнага за сацыяльную сферу. На гэтай пасадзе Патупчык не надта актыўнічаў. Адзначыць можна хіба беларускамоўны выступ на Днях пісьменнасці ў Смаргоні. Праўда, прамаўляў ён з вялікай цяжкасцю. Прабыў на гэтай пасадзе Патупчык трошкі больш за год, а замяніў яго вернуты з кітайскай высылкі Анатоль Тозік.

### Шмат гадоў працаваў з Якабсонам

Яшчэ з канца 1980-х ідзе супрацоўніцтва сённяшняга міністра энергетыкі са старшынёй Камітэта дзяржкантролю. Тады Патупчык працаваў загадчыкам арганізацыйнага аддзела Светлагорскага гаркама партыі, а Якабсон — узначальваў Светлагорскі савет дэпутатаў. Ад 1993 да 1997 Патупчык быў намеснікам Якабсона ў Светлагорскім гарвыканкаме. Варта заўважыць, што менавіта ў гэты час горад у Гомельскай вобласці заслужыў славу «сталіцы СНІДа і наркаманаў» у Беларусі. Пазней гэты тандэм працаваў у Гомельскім аблвыканкаме. Якабсон — старшыня, а Патупчык — намеснік. Аж пакуль апошняга не заўважылі ў Мінску.

### Збіў на машыне чалавека

У 2007 міністр працы Патупчык, кіруючы асабістым аўто «Аўдзі-100», збіў на вуліцы Прытыцкага ў Мінску чалавека. Пацярпелага даставілі ў больніцу, дзе той хутка памёр. Патупчык сам выклікаў хуткую дапамогу. Пад колы, дарэчы, трапіў 27-гадовы асуджаны з Івянца. Ён самавольна пакінуў «хімію» і лічыўся ва ўцёках. Праводзілася расследаванне, але віны Патупчыка ў тым эпізодзе не знайшлі.




### Сінекура і лёгкая атлетыка

Апошнія гады Патупчык займаў сціплую пасаду намесніка спікера савета рэспублікі. Праца не самая «пыльная». Таксама да мінулага года ўзначальваў федэрацыю лёгкай атлетыкі, аднак пасля правалу на Алімпіядзе ў Лондане (пасля дыскваліфікацыі Астапчук — ніводнага медаля) быў зняты з пасады. Менавіта ў час працы Патупчыка ў федэрацыі разгарнуўся скандал з трэнерам Бадуевым, які нейкі час быў пад следствам. Менавіта Патупчык лабіраваў прызначэнне Бадуева. Нейкая доля віны, што вынікі ў лёгкай атлетыцы рэзка пайшлі ўніз, таксама ляжыць і на Патупчыку.

**ЗП**



**Андрэй Швед**

У Беларусі заснаваны новы дзяржаўны камітэт — судовых экспертыз. Яго ўзначаліў 40-гадовы следчы Андрэй Швед. Ён нарадзіўся ў Лельчыцкім раёне, вёсцы Глушкавічы. Скончыў БДУ. Працаваў у пракуратуры. Апошнія гады быў першым намеснікам у Следчым камітэце. Менавіта Швед курыраваў справу Канавалава-Кавалёва па тэракце ў мінскім метро.

# База расійскіх знішчальнікаў будзе ў Беларусі

Алесін: Адзіная сістэма СПА **абмяжоўвае незалежнасць** Беларусі. .

Праз два гады ў нашай краіне будзе дыслакавацца цэлы расійскі авіяполк — гэта галоўны вынік сустрэчы міністра абароны Расіі Сяргея Шайгу з Аляксандрам Лукашэнкам.

«Полк будзе служыць абаронай нашых рубяжоў», — сказаў Шайгу. Яшчэ міністр паабяцаў, што ў наступным годзе Расія паставіць Беларусі чатыры дывізіёны ракетных сістэм С-300. Гэта такія зенітныя кіраваныя ракеты, якія б'юць на адлегласць да 200 кіламетраў. З краін Еўрасаюза толькі Балгарыя і Славакія яшчэ выкарыстоўваць С-30. Варта таксама адзначыць, што ў рэальных баявых дзеяннях гэтыя ракеты ніколі не бралі ўдзелу.

«У будучыні мы збіраемся і далей разглядаць пытанні ўзмацнення абароназдольнасці нашых беларускіх калег і братоў», — сказаў Сяргей Шайгу.

На сённяшні дзень на тэрыторы Беларусі знаходзяцца два аб'екты ўзброеных сілаў Расіі. Гэта — радыёлакацыйная станцыя «Волга» ў Ганцавічах і 43-і вузел сувязі ВМФ Расіі ў Вілейцы. Звычайна за вайсковыя базы плацяць арэнду краінам, дзе яны размешчаныя. Аднак Беларусь не мае ад Расіі ніякай кампенсацыі. Таму фактычна яны нават не лічацца за вайсковыя базы.

«Гэта ўсё робіцца ў межах узмацнення рэгіянальнай сістэмы супрацьпаветранай абароны. То бок не адбылося новых абмежаванняў незалежнасці Беларусі. Сама дамова адзінай сістэмы СПА абмяжоўвае незалежнасць Беларусі, але гэта адбылося ўжо ў момант падпісання, — лічыць вайсковы эксперт Аляксандр Алесін. — Патэнцыйны праціўнік тут, вядома ж, краіны НАТО».

**ЗП**



**Вайсковыя базы Расіі за мяжой**

Ёсць у Арменіі, Казахстане, Кыргызстане, Кубе, Таджыкістане, Украіне, Прыднястроўі, Паўднёвай Асеціі, Абхазіі. Таксама да нядаўняга часу былі ў Грузіі, Узбекістане і В'етнаме.

**МАЗ — адмовіў, вайсковую базу — дазволіў**

Цікава, што перад гэтым Лукашэнка фактычна адмовіў расійскаму боку ў прыватызацыі МАЗа. «Я на гэтую бандыцкую акцыю не пайду», — сказаў кіраўнік дзяржавы. Праўда, ужо праз пару дзён пайшоў Расіі на іншую саступку.



**На фота: Прадстаўніца КДБ Наталля Скурат (на пярэднім плане), начальнік упраўлення ідэалагічнай работы Гродзенскага аблвыканкама Павел Скрабко і судовая сакратарка.**

# Ашмянскі метад

Суд **прызнаў экстрэмісцкімі** альбомы «Прэс-фота Беларусі — 2011», а ад конкурса пачалі адмаўляцца партнёры.

«Чаму вы лічыце тэмы Чарнобыля ці старасці непрывабнымі? Асвятленне гэтых тэм — экстрэмізм?» — пыталіся ў суддзі і супрацоўніцы КДБ фатографы Юлія Дарашкевіч, Вадзім Заміроўскі і Аляксандр Васюковіч. Аднак пытанні так і засталіся без адказу.

Прадстаўніца КДБ Наталля Скурат паводзіла сябе вельмі няўпэўнена, чытала з паперак і запінался, нібыта троечніца, якая не падрыхтавала ўрок. А вось начальніка ўпраўлення ідэалагічнай работы Гродзенскага аблвыканкама Паўла Скрабко падбадзёрваць было не трэба.

«Словы ў подпісах маюць аднолькавае значэнне ў рускай і беларускай мовах», — казаў ён калі пыталіся, чаму экспертызу подпісаў у альбоме рабілі па слоўніках расейскай мовы, калі там напісана ўсё па-беларуску.

Менавіта Скрабко ўзначальваў камісію, якая знайшла прыкметы экстрэмізму ў альбомах.

«Мы збіраемся абскарджваць гэтае рашэнне, калі спатрэбіцца, пройдем усе інстанцыі», — сказала рэдактрака альбомаў «Прэс-фота Беларусі» Юлія Дарашкевіч.

Паводле адпаведнага артыкулу КК, канфіскаваныя альбомы павінны быць знішчаныя. У людзей адразу ўзніклі непрыемныя асацыяцыі з часамі, калі палілі кнігі. Праўда, у свабодным продажы «Прэс-фота» ўжо не засталося — даўно разабралі. Знішчаць толькі канфіскаваныя. Дарэчы, ніякіх наступстваў ад захоўвання альбомаў дома для іх уладальнікаў не будзе, калі не збярэцеся прадаваць. Так што можна не хаваць.

Суд, на жаль, меў кепскія наступствы для «Прэс-фота». « «Ад супрацоўніцтва з намі адмовіліся многія партнёры», — паведаміў арганізатар конкурса Вадзім Заміроўскі.

**Ганна Бадзяка, Ашмяны — Мінск**



**Фотафакт**

## Грыбаўскайце ляціць у Лондан эканом-класам лаўкоста

Прэзідэнтка Літвы Даля Грыбаўскайце паляцела ў Лондан на пахаванне Маргарэт Тэтчэр эканам-класам таннай авіялініі Wizzair. А гэтае фота размясціла ў сваім Фэйсбуку. Прэзідэнт нядорага каштуе нашым паўночназаходнім суседзям. Лукашэнка ж у замежныя паездкі лётае на шыкоўным Boeing 767, які раней належаў Туркменбашы Сапармурату Ніязаву.



# Атруціўся коранем цыкуты

**Былы маладафронтавец, МНСавец, 31-гадовы Міхал Шарамет захапляўся турызмам, выжываннем у дзікіх умовах.**

Не стала Міхала ў нядзелю. Ён разам з сябрамі быў у байдарачным паходзе на Нарачанскіх азёрах. Міхал быў заўзяты турыст. Ад юнацтва хлопец захапляўся вандроўкамі, удзельнічаў у спартова-патрыятычных арганізацыях моладзі, ад вышкалаў «Краю» пачынаючы. Яго цікавіла экстрэмальнае выжыванне, гэтаму ён вучыў і моладзь у паходах.

Прычына смерці — атручванне раслінай цыкутай. Падчас стаянкі Шарамет еў лісцікі і карэньчыкі. Імаверна, ён зблытаў калівы цыкуты з пажыўнай раслінай — сніткай.

### Маўклівы, але талковы

У Мядзельскім РАУС «Нашай Ніве» пацвердзілі, што выпадак атручвання цыкутай быў зафіксаваны.

У Шарамета засталіся жонка і трохгадовы сын Алесь. Спачуванні ўдаве Міхала, рэдактарцы сайта Tut.by Алёне Андрэевай-Шарамет выказаў былы старшыня Маладога фронту, палітзняволены Павел Севярынец.

«Міхал Шарамет трэніраваў маладафронтаўскую дружыну, часта ездзіў на вышкалы, — расказвае Севярынец. — Ён у свой час заснаваў спартова-патрыятычную арганізацыю «Ваяр» пры Маладым фронце. Маўклівы, але талковы хлопец. Ахоўваў парадак, слухаліся яго ўсе. Відаць, наблытаў нешта, не тое з'еў...»

У Малады фронт Шарамет прыйшоў школьнікам напрыканцы 1990-х. Гэтага бялявага хлопца з адкрытым тварам памятаюць многія ўдзельнікі маніфестацый той пары. У 2004, пасля таго як МФ раздзяліўся на фракцыі, якія часам бурна супернічалі між сабой, Шарамет стварыў новую моладзевую арганізацыю пад назвай «Вольная моладзь». Па словах тагачаснага мф-аўца Цімоха Дранчука, яна «мела спартова-патрыятычную накіраванасць і была блізкай па поглядах да Маладога фронту». Арганізацыя не стала шматлікай, але брала актыўны ўдзел у Плошчы-2006. Яе сябры збіралі подпісы за Алеся Міхалевіча падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010.

Вядома, што Шарамета затрымлівалі паводле справы аб выбуху 3 ліпеня 2008 года — тады спецслужбы масава хапалі актывістаў дзейных і былых вайскова-патрыятычных суполак. Аднак Шарамета адпусцілі праз трое сутак.

Працаваў Міхал пры Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Ён увогуле заўжды любіў экстрым: нават бел-чырвона-белыя сцягі вывешваў на самых недаступных месцах.

«Міхаіл быў добры і ўпарты хлопец, і калі многія абмяркоўвалі, ён рабіў. Яго гібель — сапраўды вялікая страта», — сказаў «Нашай Ніве» Цімох Дранчук.





Цыкута расце па ўсёй тэрыторыі Беларусі.

### Што такое цыкута

Па-беларуску цыкуту ядавітую называюць яшчэ «віхаг шалей».

Гэта надзвычай атрутная расліна, якая шырока распаўсюджана амаль ва ўсім свеце. Таксічнымі з'яўляюцца ўсе часткі расліны, але найбольшая канцэнтрацыя яду цыкутаксіну назіраецца ў карэнні. Дадатковую небяспеку стварае тое, што цыкута мае прыемны пах морквы, а атрутнае карэнне на смак нагадвае бручку ці рэдзьку.

Згодна з легендай лічылася, што грэчаскі філосаф Сакрат быў пакараны прыняццем соку цыкуты.

Супраць яе няма проціяддзя, расказвае старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі НАН Беларусі Аркадзь Скуратовіч: «У Беларусі ёсць дзве смяротныя расліны — гэта цыкута і балігалоў. Дзейнічаюць яны вельмі падобна, паражаюць цэнтральную нервовую сістэму. Расце цыкута ля вады: на рэках, балотах, ручаях.

Яна ўся атрутная: і лісце, і карэнне. Па каранях яе і адрозніваюць. У яе вельмі вялікае, з кулак, карнявішча. Калі разрэзаць, то там будзе 5—7 асобных пустых камер. А так яна вельмі мала адрозніваецца ад іншых раслін сямейства парасонавых.

Ёсць іншыя атрутныя расліны, але яны выклікаюць толькі галаўны боль, дыярэю, а тут дастаткова з'есці два-тры лісточкі, каб загінуць».

**Кірыла Хілько, Зміцер Панкавец**

### Спачуванні праз nn.by

Ой, Божа, як жа цяжка ўсвядоміць, што Міхала няма! Міхал быў для мяне прыкладам смеласці і адвагі. Ён быў шчырым патрыётам Беларусі і рабіў усё магчымае для таго, каб мы жылі ў свабоднай краіне. Мы будзем помніць Міхала як вернага сябра, шчырага патрыёта і цудоўнага чалавека!

**Сяржук Бахун**

Вечны супакой! Шчырыя спачуванні сям'і і блізкім Міхала.

**Сяржук Лісічонак**

Ён заўсёды быў упэўнены ў сабе і любіў экстрым ва ўсім. Заўседы прасіў, каб яго называлі Міхалам, а не Міхаілам.

**Мікіта Красноў**

Шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім, Алёне ў першую чаргу...

**Ігар Лялькоў**

Нашыя шчырыя спачуванні Алёне, сыночку і родным Міхала.

**Стэфановічы**

Вечная памяць Міхалу. Шчырыя спачуванні Алёне і родным.

**Марына Адамовіч**

Выказваю спачуванні родным і блізкім. Алёна, трымайся.

**Зміцер Каспяровіч**

## Чаму кандыдаты ў прэзідэнты Венесуэлы хадзілі ў футболках?

**Спартовы строй набліжае Мадура да Чавэса, а Капрылеса да народа.**



Капрылес.



Мадура.

Нябожчык Уга Чавэс не шанаваў афіцыйны дрэс-код. Звычайна ён насіў чырвоную кашулю, вайсковы кіцель і крапавы барэт дэсантніка. Аднак нярэдка Чавэс адзяваў і спартовы строй пад колеры венесуэльскага сцяга. Менавіта ў такім выглядзе, калі верыць невялікаму мультфільму-некралогу, Чавэс трапіў у рай, дзе сустрэўся з Сімонам Баліварам, Чэ Геварам і іншымі героямі Лацінскай Амерыкі.

Пераемнік і прадаўжальнік палітыкі Чавэса Нікалас Мадура падчас выбарчай кампаніі таксама ўзяў на ўзбраенне жоўта-чырвона-блакітны спартовы строй. Аднак футболка падабаецца і апазіцыйнаму кандыдату Энрыке Капрылесу, які нават галасаваў у ёй. «НН» паспрабавала дведацца пра вытокі любові венесуэльскіх лідараў да неафіцыйнага стылю.

«Яны дэманструюць блізкасць да народа — расказвае «НН» кандыдат гістарычных навук, спецыяліст па Лацінскай Амерыцы Яўген Красулін. — Чавэс, дзякуючы сваёй харызме, прывучыў народ да такога выгляду, і ў венесуэльцаў няма негатыўных асацыяцыяў, звязаных з «майстаркамі» на целе высокіх асоб. Колеры строяў — вельмі яркія, пазітыўныя, прыцягваюць увагу. Плюс асацыяцыя са спортам, рухам, сілай, энергетыкай — Чавэс жа быў чэмпіёнам краіны па бейсболе.

Выбар такой вопраткі мог быць вынікам парады паліттэхнолагаў. Аднак трэба ўлічваць яшчэ і стыль паводзінаў палітыка. Капрылес моцна адрозніваецца ад звыклай для венесуэльцаў мадэлі. Ён актыўна размаўляе з народам, лётае на сваім байку па штаце, можа пагуляць у баскетбол ці залезці па грудзі ў брудную ваду падчас паводкі. Ён проста фантануе энергіяй. Таму ўявіць яго ў класічным гарнітуры значна цяжэй, чым у спартовым строі».

Беларускі палітык Міхась Пашкевіч мяркуе, што «спартовы строй у колер сцяга вельмі арганічна пасуе кандыдатам і падкрэслівае венесуэльскі характар».

«У адрозненні ад Беларусі, у Венесуэле спрэчак наконт нацыянальнага сцяга няма, таму яго колеры актыўна выкарыстоўваюцца і партыяй улады, і апазіцыяй, — кажа Пашкевіч. — Але носяць свае строі Мадура і Капрылес па-рознаму. Мадура набліжае свой вобраз да Чавэса. Спартовы строй кепска пасуе гэтаму грузнаму чалавеку.

Капрылесу спартовы строй дапамагае не падкрэсліваць яго арыстакратычнасць, згладзіць імідж заможнага кандыдата. У Капрылеса выдатны склад цела, і стыль «кэжуал» пасуе яму, як і любы іншы».

**КХ**

# Хто там «топчацца каля Ладуцькі ці Лукашэнкі»?

**Найлепшы хакеіст каманды Лукашэнкі стаў найбуйнейшым забудоўшчыкам сталіцы.**

«Вось гэтых шарлатанаў на рынку будаўніцтва быць не павінна. Яны зусім нічога не разумеюць у будаўніцтве. Ён недзе там топчацца каля Ладуцькі ці Лукашэнкі, паказваючы, што ён самы родны і блізкі, пасля ідзе да нейкага міністра, і ён ужо пачынае вакол яго кругамі бегаць». Пра каго былі гэтыя словы са звароту Аляксандра Лукашэнкі да нацыянальнага сходу?

Добрасумленныя забудоўшчыкі, — тлумачыў Лукашэнка, — гэта «не тыя, якія прыходзяць, бяруць рэсурсы нашых банкаў, як пасярэднікі наймаюць будаўнічую фірму — «Прамбуд» ці які трэст, — і яна ім будуе. Яны потым прадаюць кватэры і яшчэ трымаюць цэны на самым высокім узроўні на рынку, атрымліваюць звышпрыбытак. Гэта нармальна?!»

Іншымі словамі, кіраўнік дзяржавы выступіў супраць забудоўшчыкаў, якія не маюць уласных будаўнічых магутнасцяў, а наймаюць дзяржаўныя трэсты. У выніку прыбытак атрымлівае не дзяржава, а прыватнік.



**Уваход у таўнхаус «Францыска» будзе закрыты па ўсім перыметры агароджай. Запланаваны і кантрольна-прапускны пункт.**

Напрыклад, група кампаній «Тапас» летась здала ў эксплуатацыю жылы дом па вуліцы Кнорына ў Мінску. Генеральным падрадчыкам быў дзяржаўны МАПІД. Але ці распаўсюдзіцца гнеў Лукашэнкі на гэтага забудоўшчыка?

Кампанія «Тапас» атрымала пад забудову выгадныя ўчасткі не толькі на Кнорына, а і ў самых прэстыжных раёнах Мінска. Кампаніяй валодае 33-гадовы Павел Белы — сын Аляксандра Белага. Не, не таго Сашы Белага, якога праславіў тэлесерыял «Брыгада». Гэта наш, мінскі Белы — хакеіст, што памяняў сваё прозвішча з Левянштэйн на прыметнік колеру. Ягоны сын таксама стаў хакеістам. І не толькі.

## Ад бібліятэкі да Камароўкі

Візітоўка «Тапаса» — пабудаваны малапавярховы жылы комплекс на вуліцы Язмінавай у Мінску. Гэты раён — за Нацыянальнай бібліятэкай, побач са Сляпянскай воднай сістэмай — па прэстыжнасці саступае толькі Драздам, дзе жывуць чыноўнікі і іншыя асобы, набліжаныя да Лукашэнкі.

Кватэры тут купляюць за паўмільёна даляраў, а суседнія катэджы — за $1—2 мільёны.

Спіс аб'ектаў «Тапаса» не надта доўгі. Кампанія яшчэ займалася рэканструкцыяй аднаго з гістарычных дамоў на сталічнай вуліцы Рэвалюцыйнай, а таксама адкрыла гандлёвы цэнтр «Пасаж» у прыбытковым месцы побач з Камароўскім рынкам.

## «Для тых, хто варты найлепшага»

Інфармацыя на сайце «Тапаса» сведчыць, што на дадзены момант кампанія вядзе будаўніцтва яшчэ двух жылых комплексаў, таксама ў раёне Нацыянальнай бібліятэкі.



**Павел Белы атрымлівае кубак, які выйграла каманда Лукашэнкі на рэспубліканскіх аматарскіх спаборніцтвах па хакеі.**

Амаль дабудаваны «Парк-Сіці» ўяўляе сабой пяць жылых будынкаў вышынёй 5—6 паверхаў. У іх змяшчаюцца 88 прасторных кватэр. Плошча самых малых — амаль 80 м². Жыллё называецца элітным, таму і каштуе ад $2300 за м². «Гэта сапраўдны падарунак для тых, хто цэніць стыль, камфорт і высокую якасць жыцця. Жыллё для тых, хто варты найлепшага», — гаворыцца ў рэкламным буклеце.

«Аквамарын» — набор яшчэ з чатырох жылых дамоў. 192 кватэры і некалькі пентхаусаў з адкрытымі тэрасамі будуць знаходзіцца побач з сядзібай Ваньковіча.

## Рост актываў

На штогадовай выставе «Нерухомасць» «Тапас» упершыню выставіў свой стэнд. Як аказалася, на тэрыторыі Мінска кампанія займела ўжо амаль дзясятак перспектыўных участкаў пад забудову!

Непадалёку ад Нацыянальнай бібліятэкі, насупраць праваслаўнага Дома міласэрнасці, «Тапас» праектуе комплекс таўнхаусаў «Францыска» «з абліччам у стылі заходнееўрапейскай класікі з элементамі мадэрна». Нагадаем, таўнхаус — двух- ці трохпавярховы дом, які складаецца з некалькіх шматузроўневых кватэр з ізаляваным уваходам і агульнымі бакавымі сценамі. Ад непажаданых гасцей жыхары «Францыска» змогуць схавацца за кантрольна-прапускным пунктам.

Тамсама, у раёне вуліцы Язмінавай, «Тапас» збіраецца пабудаваць 15 катэджаў. Пасёлак яшчэ не атрымаў назвы. Па жаданні замоўцы могуць быць узведзеныя як катэджы па індывідуальных праектах, так і таўнхаусы.




**Тут будуецца Павел Белы**

Іншыя аб'екты раскіданыя па ўсёй сталіцы. Напрыклад, у мікрараёне «Ржавец» (непадалёк ад «Мінск-Арэны») «Тапас» праектуе жылы комплекс «Браслаўскі». Ад дамінанты — 23-павярховай вежы — у два бакі будуць разыходзіцца 15-павярховыя пад'езды. З вокнаў будынка бачны вадасховішча «Дразды», стаў Лебядзіны і першы сталічны аквапарк.

Каля станцыі метро «Інстытут культуры» на вуліцы Магілёўскай «Тапас» запланаваў ушчыльненне. На месцы ваенкамата, які будзе знесены, мае быць пабудаваны 10-павярховы жылы дом. Жыхары раёна энтузіязму не выказваюць, але не ўсё залежыць ад іх.

Нарэшце, жылы комплекс «Дружны», які адразу ж паўстае перад вачыма кожнага, хто заязджае ў Мінск з брэсцкай трасы, таксама перайшоў да «Тапаса». Першы дом там пабудавала беларуска-непальская кампанія «Сінтэз-Белнеп Буд». Дзеля справядлівасці адзначым, што такой колькасці прэтэнзій ад навасёлаў не было, бадай, ні ў аднаго са сталічных дамоў. Электрычнасці і гарачай вады не было на працягу года, праз шчыліны па кватэрах гуляў вецер, а адкрытыя лоджыі завальвала снегам... Цяпер працягваць будаўніцтва будзе «Тапас». Па словах супрацоўнікаў кампаніі, участак быў выкуплены ў будаўнікоў-папярэднікаў.

## Выгадная пазіцыя

У чым сакрэт поспеху «Тапаса»? Як кампанія, якая яшчэ некалькі гадоў таму нічым не вылучалася на фоне канкурэнтаў, здолела атрымаць з дзясятак прэстыжных участкаў?

Многія небеспадстаўна звязваюць гэтыя факты з асобай намесніка дырэктара кампаніі. Ім працуе 33-гадовы бізнэсмэн, а раней перспектыўны хакеіст Павел Белы.

Ягонага бацьку Аляксандра і двух дзядзькаў (Уладзіміра і Юрыя) могуць узгадаць спартовыя заўзятары са стажам. Трое братоў у савецкі час былі хакеістамі. Іх тагачаснае прозвішча — Левянштэйн.

З цягам часу Аляксандр Левянштэйн ператварыўся ў Аляксандра Белага. Пад новым імем ён паспеў папрацаваць генеральным дырэктарам Федэрацыі хакея Беларусі, а пасля — на такой самай пасадзе ў мінскім «Дынама».

Ягоны сын Павел тым часам падаваў надзеі. Яго паклікалі гуляць у Расію. Праўда, у складзе ні чарапавецкай «Северсталі», ні ўфімскага «Салавата Юлаева» ён так і не замацаваўся. Давялося вяртацца ў Беларусь, каб у 2007 закончыць прафесійную кар'еру праз траўму спіны. Але гэта быў толькі пачатак іншага хакейнага ўздыму. Павел апынуўся ў складзе зборнай Аляксандра Лукашэнкі, прычым на пазіцыі нападаючага. Ягоным партнёрам па лініі атакі стаў сам кіраўнік дзяржавы.

Белы закідвае шайбы адну за адной, тым самым прыносячы далёка не аматарскай камандзе пераканаўчыя перамогі ў гульнях з хакейнымі непрафесіяналамі. А сам тым часам будуе прыбытковы бізнэс.

...Жылы комплекс «Аквамарын» мусіць быць дабудаваны ў трэцім квартале 2015 года. На той самы час у Беларусі запланаваныя прэзідэнцкія выбары. «Для мяне галоўнае, каб яны ўсё паспелі зрабіць да выбараў, бо мала як там расклад потым зменіцца...» — перажывае адзін з будучых жыльцоў «Аквамарына» на тэматычным форуме «Тапаса» ў інтэрнэце.

**Ягор Марціновіч**



**Элітны жылы комплекс «Аквамарын» на беразе Сляпянскай воднай сістэмы.**

**Жылы комплекс «Дружны» пачынаў будаваць непальскі інвестар, а працягне «Тапас».**



# Двое ў масках дзёрзка абрабавалі банк у Любані

Збілі ахоўніка, скралі інкасатарскае аўто і грошы.

21 красавіка двое ў масках напалі на аддзяленне «Белаграпрамбанка» ў Любані. Яны збілі міліцыянта і забралі ў яго пісталет, а касіра звязалі.

У дзень нападзення банк працаваў толькі з юрыдычнымі асобамі — прадпрымальнікі здавалі выручку. Таму чакалася паступленне вялікіх сум. Напэўна, злачынцы выбралі гэты дзень невыпадкова. Дакладная сума скрадзенага яшчэ ўдакладняецца.

Вядома, што аддзяленне банка было абсталяванна неабходнай ахоўнай сістэмай і камерамі. Цяпер запісы камер вывучаюцца следчымі. Высвятляецца, ці мелі злачынцы памагатых.

Забраўшы грошы, рабаўнікі з'ехалі на інкасатарскім аўтамабілі. Машыну пазней знайшлі за дваццаць кіламетраў ад Любані спаленай. Крымінальную справу завялі за разбой і крадзеж агнястрэльнай зброі.

Прадстаўнікі банка ад каментароў адмаўляюцца. А любанцы абмяркоўваюць: для невялікага раённага цэнтра гэта здарэнне нумар адзін.

«Шмат чаго кажуць, — падзяліўся з «НН» адзін з жыхароў горада. — Нібыта не абышлося ў рабаванні без кагосьці з мясцовых. А ў цэлым такая падзея скаланула горад: калі ўжо банк абрабавалі, то што тады чакаць у іншых установах».

**Кастусь Матушыч**

**Як рабавалі беларускія банкі**

**Кастрычнік 2012** — у Мінску грамадзянін Грузіі абрабаваў адзяленне «Беларусбанка» на вул. Шпалернай. Мужчына, пагражаючы нажом, забраў 30 мільёнаў рублёў. На наступны дзень яго затрымалі.

**Сакавік 2011** — у Пружанах, пагражаючы падобным да пісталета прадметам, рабаўнік забраў з аддзялення «Беларусбанка» 3128 даляраў, 1885 еўра, 13300 расійскіх рублёў, 50 польскіх злотых. Яго затрымалі праз месяц і асудзілі на шэсць гадоў.

**Жнівень 2010** — спроба абрабаваць у сталіцы банк «Масква—Мінск». Зламыснік загадзя схаваўся ў банку, а пасля закрыцця напаў на супрацоўніц. Але пакуль пакаваў грошы ў сумку, прыехала міліцыя. Паспеў сабраць 29000 еўра, 37000 даляраў, 750 тысяч расійскіх рублёў, 650 млн рублёў.

**Чэрвень 2009** — у Баранавічах з цацачным пісталетам, нажом і газавым балончыкам грамадзянін ПАР спрабаваў абрабаваць філіял банка. Не атрымаўшы грошай, збег. Затрымалі яго праз два дні і асудзілі на 13 гадоў.

**Фотафакт**



**Галоўныя абвінавачаныя ў арганізацыі выбуху на бостанскім марафоне — браты-чачэнцы Тамерлан і Джахар Царнаевы. Сям'я Царнаевых перасялілася ў Злучаныя Штаты больш за 10 гадоў таму, і дзеці — забіты цяпер Тамерлан і арыштаваны Джахар, — па сутнасці, выраслі і сфармаваліся ў Амерыцы. Пры гэтым малодшы брат Джахар (на фота), мяркуючы па ўсім, значна больш паспяхова адаптаваўся да амерыканскага грамадства. Магчыма, у падрыўную дзейнасць яго ўцягнуў старэйшы брат.**
**У Бостанскім тэракце загінулі трое, у тым ліку дзіця.**

**Вышук**



**25-гадовы мінчук** затрыманы па падазрэнні ў эксгібіцыянізме. Ён паказваў свой полавы орган дзяўчыне, якая ішла па вуліцы Русіянава. Побач праходзіў ваенны патруль, які і затрымаў хлопца. Мяркуецца, што ахвяраў можа быць больш.

Хто пацярпеў ад гэтага чалавека, тэлефануйце ў Першамайскае РУУС Мінска на (017) 280-02-02.



**Андрэева Валерыя Мікалаевіча** шукае расійская паліцыя па падазрэнні ў згвалтаваннях і забойствах. Яго бачылі і ў Брэсце. Прыкметы: 55 гадоў, рост 173 см, валасы цёмныя з сівізной, чатыры верхнія і тры ніжнія зубы маюць каронкі з жоўтага металу. Губернатар Арэнбургскай вобласці за інфармацыю пра Андрэева гарантуе прэмію ў 500 тысяч расійскіх рублёў.

Хто бачыў падазраванага ў Беларусі, тэлефануйце на 102.

## 10-гадовыя школьніцы дапамаглі затрымаць эксгібіцыяніста

6 красавіка незнаёмец выставіў свой полавы орган перад дзяўчынкай каля сталічнага гандлёвага цэнтра «Рыга». А ў сераду — паўтарыў. І зноў трапіў на тую ж школьніцу ў коле сябровак. Дзяўчынка, якая двойчы стала сведкам гэтага, пайшла за зламыснікам і зняла яго на камеру мабільніка. Якасць атрымалася дрэнная, але гэтага хапіла, каб затрымаць 57-гадовага мінчука. Праз тыдзень чалавека з фота на вуліцы пазнаў оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку Савецкага РУУС Дзмітрый Качан. Калі міліцыянт падышоў да яго, той занерваваўся. А калі прыехалі ў аддзяленне міліцыі, ва ўсім прызнаўся.

Пры апазнанні ўсе тры дзяўчынкі ўказалі на аднаго мужчыну. «Былі я і дзве мамы іншых дзяўчатак. Яны настаялі, каб апазнанне праходзіла як у фільмах пра ФБР — за шклом. Усё адбывалася ў Следчым камітэце, — расказаў падрабязнасці бацька адной з іх. — Ён жыхар Мінска. Ніколі не прыцягваўся да адказнасці. Па твары — няшчасны: не скажаш, што п'яніца альбо бандыт».

Бацька дзяўчынкі расказаў, што дачка адразу была ўзрушаная — не хацела засынаць у першую ноч. «А цяпер нічога. І ганарыцца нават, што дапамагла абясшкодзіць бандыта». Ён адзначыў працу сацыяльных педагогаў і класнага кіраўніка: адсочваюць сітуацыю, у СК адразу прыехалі.

**Сяргей Макарэвіч**

## Разбіліся ў аграгарадку на даражэзным байку

Пад Гомелем мужчыны **ўехалі ў грузавік.**

21 красавіка ў аграгарадку Урыцкае на нешырокай вуліцы шыкоўны байк не раз'ехаўся з «Опелем». Кіроўца Honda Gold Wing хацеў апярэдзіць справа легкавушку, але наскочыў на прыпаркаваную «Газэль». Відавочца паведаміў, што ўдар быў такой сілы, што «Газэль» адштурхнула на пяць метраў, а кіроўцу матацыкла і пасажыра адкінула на газон. Яны загінулі на месцы: абодва былі без шлемаў. А байк не меў рэгістрацыйных нумароў. Цяпер высвятляецца, адкуль у беспрацоўных аказаўся такі дарагі матацыкл. У Беларусі такая мадэль, 2010—2012 гадоў выпуску, каштуе ад 40 тысяч даляраў.

«Дзяніс быў нармальным пацаном, а другога я не ведаю. Матацыкл ягоны быў», — сказаў знаёмы хлопца. Дзянісу было 27 гадоў. На дзесяць год старэйшым быў кіроўца.

Для аграгарадка гэта не адзінкавая падобная трагедыя. У верасні 2011 18-гадовы юнак, што толькі атрымаў правы, на «Фіаце» збіў крыху старэйшага матацыкліста. Ён уехаў у бачыну аўто і загінуў на месцы. Таксама быў без шлема і не меў правоў катэгорыі «А».

**СМ**

### Сцісла

**Знайшлі нежывой маладую маму**

Наталлю Кірсанаву з Салігорска шукалі чатыры месяцы па падазрэнні ў забойстве гадавалага сына і трохгадовай дачкі. Дзетак мёртвымі ў снежні знайшоў бацька, а жанчыну з таго часу ніхто не бачыў. Адшукалі цела Наталлі ў садовым таварыстве побач з Салігорскам мясцовыя жыхары. Прычыну смерці высветляць пасля экспертыз.

**За таран мяжы адправіўся ў турму**

23-гадовага расіяніна, які ў студзені ў пункце пропуску «Дамачава» на крадзеным «БМВ» праскочыў праз мяжу, пратараніўшы шлагбаумы, асудзілі. Чатыры бліжэйшыя гады ён мусіць правесці ў калоніі. Хлопец на судзе прызнаў сябе вінаватым, а такі ўчынак патлумачыў засмучэннем ад страты працы ў Германіі, адкуль і ехаў у Расію праз Беларусь. Таксама ён сплаціў 3500 даляраў за патрушчаныя шлагбаумы.

**З падлеткавай жорсткасцю**

На 13-гадовых падлеткаў з Іванца завялі крымінульную справу за збіццё інваліда. Пяцёра школьнікаў яшчэ ў студзені дзеля забавы закідалі снежкамі мясцовага жыхара, інваліда дзяцінства ў выніку перанесенага ім менінгіту. Але ім падалося гэтага мала: адправіліся да мужчыны дадому — частку ягоных рэчаў вынеслі на вуліцу, а самога збілі. У міліцыю заяву напісала сястра інваліда, якая з'яўляецца і ягонай апякункай.

**Катаўся на крызе і зваліўся ў ваду**

Падлетак у Наваполацку адправіўся на Дзвіну пакатацца на крызе. Але не ўтрымаўся і зваліўся ў ваду. Выбрацца на бераг ён не змог і ўскараскаўся на падтопленае дрэва, адкуль яго знялі выратавальнікі, што падплылі на чоўне. З пераахаладжэннем хлопчыка адвезлі ў бальніцу.

**Згарэў у траве**

У Воранаўскім раёне пры тушэнні травы на лузе знайшлі труп вяскоўца. Мяркуецца, што ён задыхнуўся ад дыму. Магчыма, ён заснуў з непатушанай цыгарэтай, ад якой загарэлася трава. У той дзень вяскоўцы бачылі яго нападпітку.

**КМ**

# Былы ахоўнік Лукашэнкі сышоў з хакея

**Юрый Бародзіч** напісаў рапарт аб адстаўцы.



Кветкі Бародзічу на дзень нараджэння ад гандбалістаў «Дынама».

У беларускім хакеі пачынаюцца вялікія змены. Рапарт аб адстаўцы напісаў кіраўнік назіральнай рады хакейнага «Дынама» Юрый Бародзіч. Той самы Бародзіч, з якім змагалася тройка спортпрызначэнцаў (Шамко, Рачкоўскі, Рыжанкоў). Проста так Бародзіч сыходзіць не хацеў.

Выглядае, што ў справу давялося ўмяшацца асабіста Лукашэнку. Сам Бародзіч сказаў: «Гэта рашэнне кіраўніка дзяржавы. Вы ведаеце, што я чалавек вайсковы. Я падзякаваў прэзідэнту за тую ўвагу, якая быў аказаная таварыству «Дынама».

Незадаволенасць самага высокага кіраўніцтва выклікалі апошнія хакейныя вынікі — пралёт міма Алімпіяды і нетраплянне «Дынама» ў плэй-оф КХЛ. А грошы ж у гэты від спорту ўкладаюць вялізныя.

Бародзічу 57 гадоў, ён нарадзіўся ў Гомелі. Працаваў у КДБ. Быў камандзірам спецназа «Альфа». У 1995 стаў кіраўніком службы аховы Лукашэнкі. Ад 1998 — афіцыйны прадстаўнік КДБ Беларусі пры ФСБ Расіі. Узначальваў федэрацыю хакея.

Цяпер Бародзіч абяцае засяродзіцца на гандбольным «Дынама».

**Зміцер Панкавец**

# Раман Абрамовіч сёмы раз стаў бацькам



У вядомага расійскага алігарха Рамана Абрамовіча і яго сяброўкі, дызайнеркі і галерысткі Дар'і Жукавай, нарадзілася дачка. Дзяўчынку назвалі Лея.

Для 46-гадовага бізнэсмэна і яго 30-гадовай сяброўкі, заснавальніцы і кіраўніцы Цэнтра сучаснай культуры «Гараж», Лея стала другім агульным дзіцем. У снежні 2009 года ў Абрамовіча і Жукавай нарадзіўся сын Аарон Аляксандр.

У Абрамовіча таксама ёсць два сыны і тры дачкі ад першага шлюбу. Раман Абрамовіч — вядомы прадпрымальнік, былы губернатар Чукоткі, валодае футбольным клубам «Чэлсі», а таксама ўваходзіць у спіс найбагацейшых людзей свету.

**Сямён Цыбульскі**

# Цяпер не будзе падобны да мікрасхемы

**Адзінага брэнда** Мінска не будзе.

Брытанская кампанія INSTID падпрацавала канцэпцыю візуальнага сімвала беларускай сталіцы. Графічны ўзор, як і раней, утварае спалучэнне белага і блакітнага колераў, але ў адрозненне ад папярэдняй версіі ён не нагадвае мікрасхему, якая выклікала хвалю абмеркаванняў у інтэрнэце.

Распрацоўшчыкі вырашылі адмовіцца ад адзінага лагатыпа, бо, як яны лічаць, «аднолькава любімы жыхарамі і шырока вядомы за мяжой атрыбут горада Мінска яшчэ не склаўся арганічна».

Візуальны стыль прапануецца выкарыстоўваць у розных кантэкстах: для афармлення будынкаў і аб'ектаў гарадской інфраструктуры, для дэкору.

**ЛМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Белая кроў

У цэнтры Мінска, на задворках вялікіх дамоў, сярод павуціння пратаптаных сцежак, што скарачаюць шляхі, прыляпілася да цаглянай сцяны высокая галубятня.

Кожны раз, праходзячы міма, я бачу галубоў, якія паселі на седалах за высокай металічнай librarseткай, зусім не падобных на растлусцелых сабратаў, што акупавалі плошчы і двары Мінска. Бачу, калі ўжо цёмна, свет у іх дыхтоўным, жалезным доміку, бачу мужчыну сярэдняга веку, гаспадара гэтых забытых сучасным горадам птушак.

Яшчэ нядаўна я бачыў яго з хлопчыкам, амаль падлеткам з безабаронна аблыселай, да сіняватасці, галавой. Аднойчы хлопчык нешта гаварыў галубам, і ў ягоных словах я пачуў палескую гаворку — дзіўную пявучую вязь з беларускіх, польскіх, украінскіх і ўласна палескіх выразаў і слоў. Галубы ціхім буркаваннем нешта адказвалі яму на той жа, як падалося, гаворцы. І гэта была адзіная з мноства магчымасць, калі я, збочыўшы са сцежкі, мог без боязі падысці, каб распытаць мужчыну і хлопчыка аб іхнім папярэднім, далёкім, па ўсім, ад сталічнага, жыцці. Жыцці, ад якога, здавалася мне, толькі што і засталіся галубятня і галубы. Але не адважыўся.

Потым іх не стала, мужчыны і хлопчыка. Потым мужчына з'явіўся адзін. Я спыніўся наводдаль. «Памёр, — вымавіў мужчына, — белая кроў...»

Не, я так і не адважваюся падысці з размовай, калі бачу яго, нерухома і моўчкі сядзячага на скрыні за металічнай сеткай. І галубоў, што таксама моўчкі і нерухома расселіся на седалы.

Калі-нікалі, праўда, нехта з галубоў узмахвае крыламі ўслед...

Быў у маім жыцці яшчэ выпадак, калі я хацеў, але так і не адважыўся распытаць чалавека аб ягоным мінулым жыцці.

Той выпадак быў у 1968. А чалавекам была старая з вялікай вёскі Сігневічы, што ў Бярозаўскім раёне, на ўскрайку знакамітага Спораўскага балота. Дакладней, не з вёскі, а з хутара недалёка, ад якога засталіся толькі перакручаныя ствалы груш, рэшткі печы, комін ды стары, магутны, у тры абхваты, дуб.

У тыя часы ці не ўвесь народ, асабліва камсамольскі, тросся ад ліхаманкі меліярацыі. І не проста меліярацыі, а МЕЛІЯРАЦЫІ ПАЛЕССЯ. Гэта сёння страшнавата гучыць. А тады гучала натхнёна. Вельмі ўжо карцела выблытацца са «спрадвечнай галечы і адсталасці»

Яны працавалі нібыта звяры, тыя сігневічскія камсамольцы, развараціўшы балота з дапамогай жалезных грукатлівых

## «Ізноў птушкі!» — абурыўся Машэраў

страшыдлаў. Я пасяліўся ў іх па газетнай справе, дапамагаючы ўкладваць дрэнажныя трубкі, абгортваць шклопаперай швы паміж імі дзеля надзейнай фільтрацыі...

У перапынках у цішыні чутны быў звон празрыстай вады, што імклівым ручаём сцякала ў меліярацыйны роў. А далей — Ясельдай, Прыпяццю ды Дняпром — у Чорнае мора...

А потым яны ўзяліся за хутар. Але ўпёрліся ў дуб. Я глядзеў, як каталі яны яго бульдозерам з розных бакоў, пакідаючы толькі надрэзы ды падраную кару на ствале.

Вось тады я і ўбачыў старую.

У нейкай непрытомнасці яна бадзялася па хутары, як бадзяюцца пагарэльцы па папялішчы, нешта вышукваючы ў рэштках ад мінулага жыцця. Я, быў, крануўся да старой паразмаўляць. Але яна, не заўважаючы мяне, павольна павярнулася да дуба і раптам бухнулася на калені, варушачы вуснамі і раз-пораз асяняючы дрэва крыжом...

Ну, як тут было перашкаджаць?!

А хутка на вялікай нарадзе ў Пінску, адкуль распаўзалася тады пошасць меліярацыі, зноўку вяшчалася аб «спрадвечнай галечы і адсталасці», грымелі апладысменты, пакуль на трыбуну не падняўся нейкі вучоны арнітолаг, зусім замухрышка па выглядзе, і не заплакаў па шэрых жаравах. «Ізноў птушкі! — абурыўся Машэраў. — Аб чым гэта вы нам ізноў?!»

Машэраў, мабыць, і падумаць не мог, што «спрадвечная галеча і адсталасць» ад кесараў, а не ад Бога — спрадвечнай палескай дрыгвы...

Сёння ім, сучасным кесарам, ізноў перашкаджаюць «птушкі», ім ізноў не церпіцца пагнаць на балоты, нават тыя, што адроджаны на сродкі ААН, жалезных страшыдлаў і ўбіць чарнобыльскі кол у самае сэрца нарачанска-астравецкага раю.

...Два табу засталіся нам ад нядаўніх беларускіх трагедый — на меліярацыю Палесся і будаўніцтва АЭС. У іншых краін і народаў ёсць, мусіць, свае табу. У нас — гэтыя.

Аніякая ўлада, нават народ з рэферэндумам — ці ж толькі аб самагубстве — не валодаюць правам распараджацца Боскімі дарункамі, дзякуючы якім народ яшчэ жывы і не згубіў канчаткова сваю гаворку, памяць і душу.

...Не, не звон празрыстай вады я чуў на Палессі амаль паўстагоддзя таму, а плач. І не вады, адфільтраванай да бела, да адсутнасці жыцця, а белай крыві.

Але і сёння даносіцца да мяне гэты плач, калі праходжу міма галубятні ў цэнтры Мінска і, не азіраючыся, чую ўзмах галубіных крылаў услед...

*kamerton_41@mail.ru*

# Лабадзенка: **Я быў эгаістам, я ім і застаўся**

Паэт, журналіст, шоумэн Глеб Лабадзенка расказвае пра дзяцінства, **Барадуліна, журналістыку, Радзівілаў**.



Я заўважыў, што чым больш чалавек зрабіў, тым менш ён хваліцца

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Глеб Лабадзенка**

Нарадзіўся ў 1986 у Мінску. Паэт, журналіст. Вучыўся ў Коласаўскім ліцэі. Працаваў у «Комсомольской правде в Беларуси», «Звяздзе». Аўтар кніг «Pager-вершы», «Дзіцячая заМова». Уклаў непадцэнзурную кнігу Уладзіміра Караткевіча «Ладдзя роспачы».

### Думаў, што свет круціцца вакол мяне

У дзяцінстве мне падавалася, што свет круціцца вакол мяне. Бо я быў першым дзіцём у сям'і і ўсе сваякі мне «дупу цалавалі», насіліся вакол мяне, падаруначкі розныя рабілі. Я не толькі быў эгаістам, я ім і застаўся. Жонка мая часта папракае, што я эгаіст. Але я перакананы, што калі ты не любіш сябе, дык нікога навокал любіць не будзеш. Усе нашыя беларускія штучкі кшталту «Сам пад лаву лягу, а госця на ложак пакладу» я не разумею і дужа не люблю, бо годнасць чалавечая пачынаецца з павагі да сябе.

### У 13 гадоў я пачаў пісаць артыкулы

Я быў паслухмяным хлопчыкам у дзяцінстве. Да пятага класа нават не піў з хлопцамі ў вёсцы нічога. Цягаліся ў лес, што быў побач, палілі там вогнішча. У 13 гадоў пачаў пісаць артыкулы, але спачатку былі вершы. Мой першы верш напісаны па сацыяльнай замове. У школу павінны былі прыехаць з РАА, і настаўніца сказала, што трэба нешта напісаць. Мяне замкнулі ў музеі Янкі Маўра, што быў у нашай школе, і я там два урокі сядзеў пісаў. Потым, як надрукаваў вершы ў газеце, рэдактарка сказала, каб я паспрабаваў напісаць артыкул. Ну я і паспрабаваў, першым артыкулам было інтэрв'ю з апошнім жыхаром Хатыні. Ён спачатку адмаўляўся, але я сказаў: «Ну, спадар Віктар, гэта будзе мой першы артыкул». Гэта яго кранула, і ён пагадзіўся.

### Да мяне не ліпла ідэалагічнае смецце

Тата з пачатку 1990-х на мітынгі хадзіў, Пазняка фоткаў і выпісваў газету «Свабода». І да мяне ніколі не ліпла ідэалагічнае смецце.

### Дзед не мог зразумець, як дзіця назвалі

У школе я быў адзіным Глебам, што прыцягвала вялікую ўвагу. Калі ездзілі ў вёску, дык нават наш сваяк дзед Васіль не мог зразумець, як дзіця назвалі, і тры разы перапытваў. Але бацька мне патлумачыў, што ён назваў мяне ў гонар першага мінскага князя. Мне было заўсёды прыемна.

### Сябры ў Турцыю ездзілі, а я ў бульбе сядзеў

Я нарадзіўся ў Мінску, і бацькі мае з Мінска. Бабуля, пасля таго як памёр Сталін, паехала скараць Мінск. Яна была з-пад Слуцка. І кожнае лета я ездзіў да яе ў вёску. У школу я пайшоў у 1993, тады маіх аднакласнікаў ужо пачалі па Турцыях і Егіптах вазіць, а мяне нікуды. Было крыўдна, бо аднакласнікі 1 верасня паказвалі фоткі з курортаў, а ў мяне ўсе фоткі былі, як я ў бульбе сяджу. Пазней я зразумеў, што вёска была сапраўдным шчасцем, дзе я спасцігнуў мову не па падручніках, бо бабуля размаўляла на беларускай мове.

### Не зважаць на тое, што кажуць іншыя

Тата з дзяцінства казаў мне, каб я не зважаў на тое, што гавораць іншыя. З часам я гэты пастулат удасканаліў: зразумеў, што для мяне істотна думка толькі тых людзей, якіх я люблю і паважаю. Усім падабаецца толькі даляр, сэнсу падабацца ўсім у журналістыцы я не бачу. Тым больш сёння, у эпоху інтэрнэт-троляў. Які б артыкул ні быў выстаўлены — адразу знаходзяцца тыя, хто пачынае троліць і зняважаць. Але хто ты такі і што ты такога зрабіў? Мерацца чымсьці можна толькі з тымі, хто ўжо нешта зрабіў. Я заўважыў, што чым больш чалавек зрабіў, тым менш ён хваліцца.

### Кніга — не крыніца інфармацыі, а прадукт

У наш час кніга ўжо не крыніца інфармацыі — гэта прадукт. Я перакананы, што найперш кніга павінна быць артэфактам. Не разумею неахайна зробленыя кнігі ці кнігі, зробленыя на «туалетнай паперы». Заўсёды вершы ці малюнкі можна знайсці ў інтэрнэце, дык навошта людзям казаць: «купіце тое, што вы ўжо бачылі». Таму выхад кнігі «Дзіцячая заМова» зацягнуўся на некалькі месяцаў, бо мэтай было стварыць адметную і непаўторную кнігу.

### Фуфло тое, што Чаргінец выдае

Зайшоў нядаўна ў кнігарню і пабачыў цэлую паліцу таго фуфла, што Чаргінец выдае, гэтыя «труны» зялёныя з залатымі пёрамі. Я запытаўся ў прадавачкі, ці купляюць тыя кнігі, дык яна адказала, што ніхто не пытае, ніхто нават у рукі не бярэ яго кніг. Сярод маіх сяброў няма гуманоідаў, якія б гэта чыталі. Аўтары гэтых кніг — непрыгожыя людзі, таму вокладкі ў іх непрыгожыя, яны пішуць непрыгожыя вершы, яны пішуць непрыгожую прозу, яны выдаюць непрыгожыя часопісы, яны робяць непрыгожыя ўчынкі. Іх вокладкі іншымі быць не могуць.

### У школе я думаў, што ўсе беларускія літаратары даўно памерлі

У мяне ў школе беларускую літаратуру выкладалі так, што я думаў, што ўсе беларускія літаратары даўно памерлі. У 7 класе я пазнаёміўся з Барадуліным. Я патэлефанаваў яму і папрасіў пазнаёміцца. Гэта чалавек маштабу Купалы і Багдановіча. Мы часта стэлефаноўваемся і бачымся, я дагэтуль цаню кожны момант, калі выпадае магчымасць гутарыць з ім і быць побач. Сам ён кажа, што з маладымі ён і сам адчувае сябе маладзейшым. Нягледзячы на ўзрост, ён вельмі іранічны і хуліганісты чалавек. Але я не хацеў бы займацца панібрацтвам і казаць: «ведаеце, а мы дружбаны». Знаёмства з ім было для мяне культурнай рэвалюцыяй.

### Свет чорна-белы

Ад дзядзькі Рыгора я навучыўся таму, што свет чорна-белы. Заявы кшталту таго, што свет мае шмат колераў і адценняў, я чую ад людзей, якія імкнуцца гэтым апраўдаць нейкую подласць. Калі я кажу, што ўсе мянты — жывёлы, то людзі пачынаюць казаць, што я мудзіла і ўсё мае шмат адценняў, то гэта апраўданне подласці. Калі вам не падабаецца тое, што я кажу, калі ласка, выдаляйце мяне з «фрэндаў», пішыце ў камісію па этыцы БАЖ, на пошту пішыце, што я казёл, не чытайце мае артыкулы і не набывайце маю кнігу, я нікому не навязваюся. Для мяне заўсёды больш істотна быць шчырым, чым талерантным. Я шмат у чым кансерватыўны чалавек.

### Хутка будуць фоткаць унітазы і свае какашкі

У нашай інтэрнэт-тусоўцы ёсць некалькі камічных персанажаў, такія дурні і дурніцы, якія пішуць пустую фігню. Я проста прыбіраю са стужкі тых людзей, якія актыўна пішуць пра тое, што ты з'еў, як ты па...аў, куды пайшоў і хто ў цябе пад вокнамі двор мяце. У сацыяльных сетках пішуць так мала разумных рэчаў. Хутка, пэўна, будуць фоткаць унітазы і свае какашкі.

### Рады, што ўдалося прывезці Радзівілаў у Беларусь

Што тычыцца гісторыі з Радзівіламі, то ўсё пачалося з любові да гісторыі, гэтая тэма стала для мяне шалёна цікавай, і я паехаў спачатку у Варшаву рабіць з Радзівіламі інтэрв'ю. Дагэтуль ад 1993 з Беларусі ніхто не выходзіў з імі на сувязь, хоць якраз адбывалася рэстаўрацыя Нясвіжскага замка і было б разумна звярнуцца да пані Альжбеты, якая жыла ў замку і памятае, як усё было. Потым, калі яна прыехала ў Нясвіж, я зразумеў, чаму не звярнуліся. Якраз таму, што яна памятае, ЯК было. Я мэтанакіравана працаваў над тым, каб прывезці Радзівілаў у Беларусь, і я іх прывёз. І калі быў першы іх візіт сюды, я вельмі ганаруся, што дзяржава палец аб палец не ўдарыла. У гэтай справе нешта рабіў я і польскае пасольства ў Мінску. Я чуў, што пасля Латушка расказваў. Ну хай ужо, ты ж міністр, трэба ж хвост павіны распусціць. Калі Радзівілы ехалі сюды першы раз, ім выдалі візу толькі з трэцяга разу і за грошы. А вось другі раз, калі ў гэтым удзельнічаў Латушка, то візу ім ужо выдалі хутка і бясплатна. Я вельмі захапляюся Альжбетай Радзівіл і на будучыню рыхтую кнігу радзівілаўскіх фотаздымкаў. Я змог сабраць больш за 600 даваенных фотаздымкаў Радзівілаў і апісаць іх, пры дапамозе саміх Радзівілаў.

### Мне ўдалося перавесці «Камунарку» на беларускую мову

Я раблю тое, што магу. Напрыклад, вяду і падтрымліваю рубрыку пра беларускую рэкламу ў блогу ці пішу лісты на прадпрыемствы. Мова, нават на ўзроўні шыльдаў, вельмі істотная. Калі людзі, якія гавораць па-расейску, устаўляюць беларускія словы з шыльдаў, то нават гэта шмат каштуе. Зразумела, што мы як жабракі чапляемся за тое, што засталося, але лепш так, чым казаць: «Гары яно гарам!» Калісьці ўдалося такім чынам перавесці «Камунарку» на беларускую мову, усе надпісы на цукерках і шакаладках былі па-беларуску. Але потым прыйшла дырэктарка з прозвішчам Кот і пачала ўсё гэта знішчаць. Цяпер мала што засталося.

### Першае слова майго дзіцяці — «тата», а не «папа»

Цяпер маё дзіця практычна не чуе расейскай мовы. Наколькі будзе магчыма, я буду рабіць гэта далей. Бо я хачу, каб беларушчына прышчапілася да яму на генетычным узроўні. Але ў інкубатары я гадаваць яго не буду, рускай мове яго навучаць і так. Першым словам майго дзіцяці было «тата», а не «папа», і гэта вельмі важна.

**Запісала Вольга Гарапучык**

# «Цёмна, людзі, глуха, людзі, Штосьці будзе, штосьці будзе»

**Новая пастаноўка** класічнай п’есы Міцкевіча на беларускай сцэне.

**Наступныя паказы «Дзядоў»**

13, 20 і 27 мая. Мінск, Палац прафсаюзаў (Кастрычніцкая плошча). 19.00. Квіткі: 30—150 тысяч рублёў.



ЯЎГЕН ЕРЧАК, TUT.BY

«Прэм’ера, якая ўскалыхне тэатральнае жыццё сталіцы! «Дзяды» паводле Міцкевіча — у Тэатры Ч!» — у такія нясціплыя словы апраналі доўгачаную прэм’еру.

Дзяды ў атмасферы фальклорнай вечарыны ў раённым ДК, гісторыя беларускіх Рамэа і Джульеты, выгук «Жыве мая радзіма!» пад воплескі — усё гэта ёсць ў новым спектаклі.

Рэжысёрам была жанчына, пастаноўка аказалася рамантычнай. Нават больш, чым сама паэма. Але гэта не выклікала адпрэчвання. Міцкевіч на сцэне набыў цэльнасць, усе часткі твора ўсталі ў адзіную лінію.

Са спектаклем працавала пастановачная група з Літвы, якую запрасіў прадзюсар Андрэй Чорны і агенцтва «Тэатр Ч». Апроч рэжысёра Рамуне Кудзманайце, за плячыма якой вялікая колькасць узнагарод, да нас прыехалі кампазітар Фаўстас Латэнас, мастак па касцюмах Надзея Гульцяева і мастак-пастаноўшчык Марыус Яцоўскіс. Акцёры ж былі беларускія.

На дапамогу творчай групе прыходзілі гісторыкі, этнографы і культуролагі — спецыялісты па Міцкевічу. Вырашальным акордам была вандроўка ўсёй каманды на радзіму паэта.

Акцэнтам першай сцэны стаў народны абрад заклікання Дзядоў, які ў творы Міцкевіча дапамагаў раскрыць эпоху з усімі яе забабонамі, але і са знакамі пераменаў, што выспяваюць у грамадстве. Аўтарскі тэкст у перакладзе Сяргея Мінскевіча тут практычна не зведаў зменаў. Пазнавальныя радкі «Цёмна, людзі, глуха, людзі, штосьці будзе, штосьці будзе» падхоплівалі гледачы.

Аднак сам дзядоўскі рытуал пададзены ў жартаўліва-забаўляльнай манеры. У паэме духаў у капліцу заклікае гусляр, у пастаноўцы замест яго з’яўляецца цётка-варажбітка (Святлана Анікей) з зэдлікам, прывязаным да «пятай кропкі».

Духаў заклікаюць словамі «гулі-гулі», яны ў адказ квохчуць як куры. Адчуванне, што трапіў у вар’ятню. Дзяцей-зданяў увасабляюць птушкі з кармушкай, дух пана-прыгонніка на галаве мае сіта...

Сакральнасць і значнасць свята, важнасць памяці продкаў, якая ў паэме Міцкевіча праходзіла асноўнай лініяй, у спектаклі парваная. У тых, хто не чытаў твора, можа ўзнікнуць пытанне: як назва адлюстроўвае галоўную ідэю? А некаторых абурыла, што хор, які ўвасабляе народ, выяўлены ў шапках-аблавушках, высока падкасаных штанах, з галлём у валасах...

Але падзеі гэтай часткі былі толькі падрыхтоўкай да з’яўлення цэнтральнага персанажа, Густава, — рамантычнага паэта, якога іграе Раман Падаляка (акцёр Купалаўскага тэатра). Іграе бездакорна. Усе жылкі на целе напружаныя, прывабнасць і элегантнасць — ідэальны вобраз рамантычнага героя. Падаляка згладжвае пачатковае ўражанне ад нягеглага хору. Дзея закручваецца. Перад намі — гісторыя кахання беларускіх Рамэа і Джульеты, Густава і Марылі (акцёрка Тэатра імя Горкага Юлія Кадушкевіч). У яе мала рэплік, аднак Юлія змагла выцягнуць свой вобраз на першы план праз пачуцці ў рухах і меланхалічную харызму.

Вобраз люду шакаваў, Падаляка-Конрад зачараваў «



ЯЎГЕН ЕРЧАК, TUT.BY

У другой частцы спектакля Густаў робіцца Конрадам. Каханне адыходзіць, паэт ахоплены патрыятычнымі пачуццямі. Дзея пераносіцца ў віленскую вязніцу. Раман Падаляка, Андрэй Саўчанка, Дзмітры Тумас, Генадзь Гаранскі іграюць увязненых царом філаматаў і філарэтаў. Асноўны пасыл іх гутарак — неўміручае «свабода, роўнасць, братэрства». Як соль на раны сыплецца са сцэны: «За што моладзь пакарана? Але народ маўчыць, баючыся тырана». У паветры лётае «небяспечнае»: «Я адчуваю боль народа», «Чаму сядзіш ты ў балоце? — Сяджу, бо звыкся».

Не кожны дзень у цэнтры горада, у Палацы прафсаюзаў, пад прамянямі пражэктараў і абразамі святых юнак-змагар за Бацькаўшчыну крычыць: «Жыве мая радзіма!». Публіка прымала гэта з ахвотай і дзякавала за смеласць бурнымі авацыямі. Але так хацелася глыбейшага аналізу таго пасылу, які ўкладаў у твор Міцкевіч...

**Паэма «Дзяды»**

Міцкевіч пісаў яе ўсё жыццё. Часткамі публікаваліся ў 1822—1860 гг. Складаецца з чатырох раздзелаў. Элемент, які злучае паэму, — беларускі абрад Дзяды. «Дзяды» аўтабіяграфічныя, прасякнутыя ідэямі рамантызму і барацьбы за вызваленне ад расійскага прыгнёту.

**Альтэрнатыўныя «Дзяды»**

ў пастаноўцы Андрэя Янушкевіча ідуць у Тэатры лялек.

Сюжэт ратавала іграактораў. Падаляка моцнымі, часам істэрычнымі прамовамі трымаў залу ў здранцвенні. У атмасферы, прасякнутай музыкай Фаўстаса Латэнаса, што сыходзіла нібыта з неба, ішла барацьба боскага і д’ябальскага за душу чалавека, абвастраліся цёмныя бакі чалавечай душы, выяўляўся канфлікт грамадства, улады і асобы.

«Дзяды» — адначасова помнік нашай гісторыі і несмяротная класіка, актуальная сёння. Гэта барацьба за каханне, свабоду і шчасце, у спектаклі ўзнятыя ўсе тэмы, што хвалююць беларусаў. Гледачы пабачылі ў пастаноўцы гісторыю душы рамантычнага Густава-Конрада, але ніяк не гісторыю Дзядоў. Але галоўнае, што спектакль прымушае адчуваць наяўнасць нас і нашай гісторыі. І, безумоўна, гэта гісторыя наша і пра нас.

**Вольга Гарапучык**

# Рамуне Кудзманайце: «Калі б я рабіла гэты спектакль у Літве, гэта была б зусім іншая пастаноўка»

**Рэжысёрка «Дзядоў»** расказала пра ідэю спектакля.

«Бо ў нас ужо іншая гістарычная рэальнасць, — кажа Рамуне Кудзманайце. — Беларуская ж рэальнасць сёння дакладна кладзецца на тое, пра што пісаў Міцкевіч, — на падзеі 1831 года. У паэме ёсць гэты пратэст супраць свавольства, супраць карупцыі намеснікаў, цароў... Народ, які трывае. Я ў Беларусі бачыла гэтыя праблемы — што няма беларускіх школаў, што не ўсе ўмеюць гаварыць па-беларуску. Нават самі карані нацыянальнай душы знішчаюцца. Паўсюль савецкая атрыбутыка, чырвоныя зоркі. Беларусь усё яшчэ прымушаюць жыць Другой сусветнай вайной. А свет пайшоў далей...

**«Літоўскія акцёры цяпер працуюць індывідуалістычна, няма гэтай высокай мэты вызвалення краіны»**

Густаў-Конрад ахвяруе жыццём, каханнем дзеля любові да Радзімы, яе вызвалення. Мне хацелася падказаць беларусам, што ім трэба знайсці такога героя. Героя, які дапамог бы скінуць кандалы, якія трымаюць душу беларускую».

**«Наша Ніва»: Чаму ж тады ў спектакль не трапіла сцэна з расійскім сенатарам?**

**Рамуне Кудзманайце:** Для яе ўжо нават былі пашытыя касцюмы, але я прыбрала сцэну са спектакля за дзень да прэм'еры. Мне падалося, калі яе пакінуць, выйдзе «масла масленае». Для сцэны проста не знайшла месца ў спектаклі: гэтыя тэмы і без яе гучалі. Напрыклад, у нас ёсць вельмі моцная сцэна ў турме філаматаў, дзе паказваюцца і прагаворваюцца ўсе гэтыя ідэі. Навошта яшчэ раз было б паўтараць, паказваць «дрэннага Навасільцава»?

**«НН»: Некаторыя чытачы выказвалі ў каментарах на сайце «Нашай Нівы» абурэнне тым, што сяляне падчас заклікання дзядоў апранутыя «па-калхознаму» — у аблавушкі і валёнкі. Яны ўгледзелі ў гэтым абразу.**

**РК:** Ніякай абразы ці сатыры тут няма. Касцюмы распрацоўвала Надзея Гульцяева, яна ўвогуле руская па нацыянальнасці. Гэтыя ж валёнкі-аблавушкі, у якія апранутыя хор падчас Дзядоў, наадварот адлюстроўваюць чалавечую цеплыню, ураджанні дзяцінства, мінулыя часы — як у Міцкевіча ў паэме. Гэта з маіх дзіцячых уражанняў. Калі мы хадзілі на могілкі на Дзяды, ужо ляжаў снег. Я нарадзілася ў Вільні, але ў бабулі бывала пад Друскенікамі. У гэтых актора́х у аблавушках я бачыла тыпажы з маёй вёскі. Як варажбітка — у кожнай вёсцы ёсць такія энергічныя жанчыны. Хтосьці выглядаў як бажаволак — але гэта таксама адзнака вясковага жыцця. Мой дзядзька быў бажаволкам. Наша сядзіба стаяла там, дзе Нёман з Беларусі цячэ ў Літву, за ракой была ўжо Беларусь. Беларусы, «гуды», як мы іх называлі, прыходзілі на літоўскі бок у касцёл, у царкву. Дзядзька хадзіў па лёдзе ў Беларусь за цыгарэтамі, да свайго сябра-беларуса...



**Рамуне Кудзманайце**

Нар. у 1966. Літоўскі тэатральны рэжысёр, займаецца таксама дакументальным кіно. Скончыла тэатральны факультэт Літоўскай дзяржаўнай кансерваторыі. Працавала на Літоўскім тэлебачанні. Выкладае рэжысуру.

**«НН»: Гэта быў Ваш першы досвед працы з беларускімі акцёрамі. Якімі яны падаліся пасля літоўскіх?**

**РК:** У беларускіх акцёрах, у тых, з якімі я працавала, мяне ўразіла вельмі моцная вывучка, школа. Сістэмамі мы карыстаемся аднолькавымі: Станіслаўскі, Міхаіл Чэхаў... Але акцёры валодаюць выдатнымі інструментамі для падрыхтоўчай працы з роляй.

Атмасфера таксама адрозніваецца. Я не чакала, што ў нас, проста ў працэсе працы са спектаклем, складзецца такі моцны ансамбль, што мы станем сапраўды адзіным тэатрам. Узнёсласць, якая ёсць у Міцкевіча, трымала нас. У Літве я не адчувала такой атмасферы з часу атрымання незалежнасці. Літоўскія акцёры цяпер працуюць больш індывідуалістычна, няма гэтай высокай мэты вызвалення краіны.

**«НН»: Вы не баіцеся, што спектакль забароняць?**

**РК:** Мы гаварылі пра гэта падчас рэпетыцый. Асабліва падчас маналогаў, якія я сама рэпетавала і плакала. Я казала акцёрам: «Сябры, гэта можа дрэнна скончыцца». Але я не баюся. Мне здаецца, што страх — самы вялікі грэх чалавечы. Сёння менавіта страх перашкаджае Беларусі змяніцца.

**Гутарыў СМ**

# Стваральнік «Тэатра Ч»: наступнай пастаноўкай будзе сатырычнае фэнтэзі

«Першай пастаноўкай новага тэатра вырашылі зрабіць «Дзядоў», бо гэта твор беларускі, патрыятычны і актуальны», — расказвае Андрэй Чорны, кіраўнік «Тэатра Ч» і аднайменнага агенцтва, якое арганізуе гастролі маскоўскіх тэатраў у Беларусі.

«Мы даспявалі да яго гады тры, — кажа ён. — Чаму запрасілі літоўскую рэжысёрку? Не ў крыўду беларускім будзе сказана, але большасць з іх звязаная па руках і нагах. Дый эстэтыка, метафарычнасць, уласцівая літоўскаму тэатру, мне вельмі даспадобы. Яна не такая прасталінейная, як наша. Някрошус вельмі цікавыя пытанні ставіць у сваіх спектаклях».

У тэатры Чорны займаецца менеджментам, арганізацыяй працэсу: «Сачу, каб ніхто з трупы ні ў чым не меў патрэбы». Колькі пастаноўка каштавала, ён сказаць адмовіўся: «Гэта рабілася не дзеля грошай, а для душы. Не ўсё вымяраецца грашыма».

Падыход да стварэння спектакля сапраўды быў душэўны. Рэпетыцыям папярэднічаў этап занурэння ў матэрыял: «Мы наведалі Завоссе, Навагрудак, нам спецыялісты чыталі лекцыі пра Міцкевіча — і ўжывую, і праз скайп».

Тэатр пакуль не мае ні сталага памяшкання, ні акрэсленага калектыву, але Чорнаму спадабалася працаваць з камандай, якая склалася на «Дзядах». Ён спадзяецца, што супраца з рэжысёрам і акторамі працягнецца.

Улетку трупа павязе «Дзяды» на тэатральны фестываль «Мельпамена Таўрыі» ў Херсон. Чакаюцца запрашэнні і з іншых фестываляў.

У наступных задумках — пастаноўка паводле рамана Тэры Прачэта «Варта! Варта!». «Гэта сатырычнае фэнтэзі, таксама актуальнае для нас», — кажа А. Чорны.

**Сяргей Мікулевіч**



**Андрэй Чорны (злева) зарабляе, арганізуючы ў Беларусі гастролі маскоўскіх тэатраў. На фота — з Гошам Куцэнкам.**

# Максім Клімковіч: Адмыслова не глядзеў Янушкевіча

«Ідэя паставіць у Беларусі «Дзядоў» з'явілася ў актора Юрыя Жыгамонта — тады яшчэ не было пастаноўкі Янушкевіча ў Тэатры лялек, — расказвае пісьменнік Максім Клімковіч, аўтар сцэнічнай версіі «Дзядоў». — Фінансавае праект узяўся прадзюсар Андрэй Чорны, які марыў пра свой тэатр».

**«Наша Ніва»: Дык гэта пілотная пастаноўка новага «Тэатра Ч»?**

**Максім Клімковіч:** Так. Рэжысёрам спачатку запрасілі Валерыя Мазынскага, але штосьці не склалася, пасля ўсё зацягвалася. Урэшце запрасілі рэжысёрку з Літвы. І ўся пастановачная група таксама літоўская.

**«НН»: Спектакль рабілі разам літоўцы і беларусы. Ці адчувалася розніца ў прачытаннях Міцкевіча?**

**МК:** Мы хацелі назваць спектакль «беларуска-літоўскім», але Рамуне сказала, што ён выключна беларускі: каб ставіла ў Літве, іншыя рабіла б акцэнты, уціск Масквы для іх ужо неактуальны.

**«НН»: Чаму літоўская тэатральная школа так розніцца ад беларускай?**

**МК:** Нашы рэжысёры ўсе вучыліся ў Расіі. А ў Літве, у часе міжваеннай незалежнасці, на тэатр моцна паўплывала заходнееўрапейская традыцыя. Пасля вайны Літва ад Захаду была ізаляваная, а традыцыя працягвала развівацца. Вынік выйшаў унікальны.

**«НН»: Чымсьці няўлоўным п'еса нагадала «Тутэйшых» у пастаноўцы Пінігіна: там фінальны маналог Здольніка, тут прамовы Конрада, там сцяг у фінале, тут бел-чырвона-белыя стужкі нясуць анёлы…**

**МК:** Так, мы згадвалі пастаноўку «Тутэйшых» — я баяўся, каб падчас спектакля ніхто ў зале не крыкнуў «Жыве Беларусь!» ці не вывесіў сцяг з балкона. Як акцыя гэта было б класна, аднак на пастаноўцы адразу можна было б ставіць крыж.

**«НН»: Сцэны з Санкт-Пецярбурга не трапілі і ў спектакль Андрэя Янушкевіча, які ставіў «Дзядоў» у Тэатры лялек. Вы бачылі яго працу?**

**МК:** Адмыслова не хадзіў, бо з'явіцца нейкая падобная ідэя, а пасля звінавацяць, што скраў. І рэжысёрка не хадзіла таксама.

**Гутарыў СМ**

**Максім Клімковіч**

нар. у 1958. Празаік, драматург. Унук пісьменніка Міхася Клімковіча, аўтара словаў Дзяржаўнага гімна БССР.

**Мазынскі: Падаляка — нармальны выбар**

«Пецярбургскія сцэны ў маім спектаклі былі б адназначна, — кажа рэжысёр Валер Мазынскі, які марыць паставіць «Дзядоў» ужо трыццаць гадоў. — Як ёсць яны ў польскіх варыянтах. «Дзяды» мне цікавыя сутыкненнем вёскі — яна ж носьбіт традыцыі Дзядоў — з традыцыяй інтэлігенцкай, заходняй, шляхецкай... Раман Падаляка ў ролі Конрада — нармальны выбар. Ведаеце, праблема з інтэлігентнымі акторамі ў Беларусі. Цяпер ужо меншая: за Купалаўскі тэатр можна парадавацца. А раней... Я некалі ў Віцебску ставіў «Подзвігі Геракла», мне трэба былі патрыцыі і плебеі. Іграць плебеяў — хоць увесь тэатр запісвай, а з патрыцыямі — праблема...»

# «Харламаў»: Стаць савецкім Супермэнам

Савецкі Саюз наперадзе планеты ўсёй **у хакеі і балеце**.



Харламаў супраць падступных канадцаў.

**«Легенда №17»**

Жанр: Спартыўная драма

Рэжысёр: Мікалай Лебедзеў

Акцёры: Святлана Іванова, Алег Меньшыкаў, Уладзімір Мяньшоў, Раман Мадзянаў, Даніла Казлоўскі

У пракат выйшла стужка «Легенда №17» пра культавага савецкага хакеіста Валерыя Харламава. Кіно, дарэчы, здымалі ў Беларусі — Мінску, Бабруйску, Наваполацку. Чаго-чаго, а якасных лядовых арэн і індустрыяльных пейзажаў у нас хапае. Акцёры некалькі месяцаў вучыліся добра катацца на лёдзе.

Ніхто не любіць у спорце правільных і пакладзістых. Заўзятарам падавай куміра са складаным лёсам, каб не проста яго галам, ачкам, секундам радавацца, але і суперыжываць як чалавеку.

Напрыклад, як Марадона (яго геній мовай кіно раскрыў Кустурыца), як мінскі Пракоп. Харламаў, як і Пракапенка, таксама памёр маладым (загінуў у аўтакатастрофе).

Харламаў (акцёр — Даніла Казлоўскі) — унікальны хакеіст, самародак. Хай шчуплы і невысокі, але можа абвесці ўсіх супернікаў, закінуць прыгожую шайбу, вырашыць лёс гульні. Што яшчэ трэба для шчасця? Не, такі гулец савецкаму хакею (грамадству) непатрэбны. Бо індывідуаліст, выбухны (перадаўся тэмперамент маці-іспанкі), непрадказальны. Хай будзе горшы гулец, але дысцыплінаваны. Супермэны — гэта не савецкія персанажы. Харламаву ж хацелася быць Супермэнам, а не проста шасцяронкай зладжанага савецкага механізма.

Геніяльны трэнер Тарасаў (Алег Меньшыкаў) праганяе хакеістаў праз агонь, ваду і медныя трубы. Дыктатар, які не трывае аднаасобнікаў, хай і шалёна таленавітых. Яго ненавідзяць, баяцца, паважаюць, любяць.

Тарасаў атрымаўся нават жывейшым за галоўнага героя. Нават сённяшнім беларускім трэнерам ёсць чаму павучыцца. Тарасаў кажа Харламаву: «Ты кватэру атрымаў, машыну, цяпер вось заслужанага. Я б сам даў табе заслужанага, але пазней, якая матывацыя ў цябе будзе цяпер гуляць?» А цяперашнія ж «зоркі» маюць нашмат болей за Харламава.

Адзін з найбольш драматычных момантаў фільма — калі Тарасаў загадвае камандзе пакінуць пляцоўку, бо яе засуджваюць. На трыбуне Брэжнеў, а ён заўзее за «Спартак». Гэта рэальная гісторыя. Тарасаў сапраўды зладзіў такі акт непадпарадкавання. За што паплаціўся. Праўда, у рэале Тарасаў усё ж пагадзіўся вывесці хакеістаў назад на гульню.

Як ва ўсіх спартовых фільмах, герой падае, потым устае, пасля падае яшчэ ніжэй, а ўзлёт такі, што вышэй толькі неба.

Рэжысёр іграе на настальгічных пачуццях людзей, што перажываюць праз «такую страну развалілі». Калі гучыць савецкі гімн, калі Харламаў кідаецца целам адбіваць шайбы, думаючы пра радзіму. І ўся краіна (так і было, запытайцеся ў бацькоў, калі не заспелі) сочыць за той гульнёй. І калі Тарасаў напрыканцы кажа: «Я ганаруся гэтай камандай», — то чуецца: «Я ганаруся гэтай краінай».

Канадцы ў фільме паказаныя карыкатурна, як немцы на «Беларусьфільме». Пыхлівыя, варожыя, агрэсіўныя. Яны б'юць цішком Харламава па нагах, але той устае і перамагае. На тое ён і савецкі Супермэн.

Не шукайце ў фільме гістарычнай дакладнасці. Дарэчы, у той хакейнай серыі 1972 года канадцы выйгралі ў СССР, але каму тое цікава.

**P.S.** Пасля напісання зазірнуў у водгукі чытачоў на kinopoisk.ru. Першае, што пабачыў: «Адчуваю вялікі гонар за сваю краіну, спорт, кінематограф». Зрэшты, калі адкінуць ідэалагічныя моманты, то фільм выйшаў даволі шчымлівым.

**Зміцер Панкавец**

# Беларуская глыбіня. **Эра інжынераў**

Піша **Павел Севярынец**.

*Калі Гасподзь не збудуе дома,*
*Марна працуюць будаўнікі яго.*
*Псальма 126:1*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Ён можа, злёгку прымружыўшы вочы, назваць на памяць завадскую маркіроўку дэталі ці агрэгата, мабільны нумар свайго калегі альбо стацыянарны пастаўшчыка. Ён тут і механік, і запраўшчык, і адказны за тэхніку бяспекі, і таваразнаўца, і маркетолаг, і, калі трэба, кіроўца. Машыны ў рэйс? Зламаўся камбайн? Праверка пажарных або энергетыкаў?..

— Максі-і-імавіч!..

Максімавіч — наш галоўны інжынер. 55 гадоў, у куртцы, джынсах ды кепцы, падцягнуты, сціплы, сарамліва-ўсмешлівы і адначасна патрабавальны, перакананы, што «сістэму пара мяняць» — ён той самы *незаменны*, якіх у нас няма.

Ураджэнец знакамітых Шэйпічаў на Ружанчыне, адкуль і залаты голас Беларусі, ягоны цёзка Міхась Забэйда-Суміцкі, Максімавіч захапляецца руінамі беларускай велічы — і марыць у вольны час, якога не бывае, з'ездзіць у Нясвіж, Полацк ці Вільню.

— Была ж калісьці Рэч, — задуменна кажа тады Максімавіч, — Паспалітая!

Выразнае «ліцвінскае» вымаўленне спалучаецца ў ім з абрывістай дакладнасцю, а ў дзеканні і цеканні звініць, адціквае гадзіннікавы механізм кшталтаванай тысячу гадоў беларускасці. Нацыянальны сплаў цвёрдасці і пяшчоты пераліваецца проста ў максімавічавым твары: то халодны бляск вачэй, падкрэслены лініяй падцятых вуснаў і засечкамі зморшчынак, калі ён разбіраецца ў транспарцёры, то затуманены мяккасцю позірк і скругленне ўсіх рысаў, амаль дзіцячае, калі ён гаворыць пра старадаўнюю беларускую прыгажосць.

Максімавіч — інжынер усё жыццё: ад маладога спецыяліста ў родных «Зеляневічах» да цяперашняга галоўнага ў гаспадарцы з мільярднымі абаротамі ды двума дзясяткамі машынаў. Працуе Максімавіч бесперапынна і бесперабойна, што той камбайн. Гадзінамі на тэлефоне, заказвае, потым бегма на запраўку, потым у кантору афармляць акты ды справаздачы, вось ужо клічуць кудысьці да прычэпа даць рады зваршчыкам; секунду выцірае спэцканыя мазутай рукі газетай — і ўжо з галавой у каталогу, вышуквае нейкі ролік з бульбакапалкі.

Асноўная цяжкасць, кажа Максімавіч, людзі. «П'юць, разгільдзяйства, ну куды гэта — інжынер бездапаможна разводзіць рукамі, — і як з імі па-другому, разумееш... Вось у чым тут пытанне».

## На зямлі застаюцца хіба інжынеры, аграномы — апошнія рыцары старой закалкі »

Максімавіч — зацяты дэмакрат; зрэшты, сярод інжынераў гэта, нароўні з крытыкай начальства, — карпарацыйны «добры тон». Увесь час прыносіць пачастункі: то пірагі, якія робіць ягоная жонка, то закруткі, то печыва. «Выкладвай бокі [набірай вагу. — «НН»], Канстанцінавіч, — смяецца ён, — будзеш памятаць нашу Берасцейшчыну».

На непітушчых, мазгавітых, цёртых інжынерах, аграномах ды заатэхніках трымаецца ўся сённяшняя беларуская сельская гаспадарка. Рабочыя ды калгаснікі співаюцца, кіроўцы перамяшчаюцца з месца на месца ў пошуках сезоннага заробку, прадпрымальнікі ірванулі на Расею, моладзь у горад... А тут, на зямлі, застаюцца хіба яны, апошнія рыцары старога гарту.

Агулам інжынерна-тэхнічныя работнікі ды менеджары сярэдняга звяна — ключавы клас у справе ажыццяўлення рэформаў. І рэч не столькі ў іх ролі прывадных рамянёў тэхналагічнай мадэрнізацыі, колькі ў здольнасці прыняць новую маральную платформу і стаць апірышчам капітальнага рамонту для закліненай страхам, зношанай хлуснёй, раз'едзенай абыякавасцю ды крадзяжом беларускай душы.

Рэч у тым, што для інжынера двойчы два роўна чатыры. Ёсць законы матэматыкі, фізікі, псіхалогіі, і абысці іх будзе сабе даражэй. Калі штосьці скрасці — потым гэтага ж не хопіць; калі не даплаціць — людзі паўцякаюць; калі схлусіць — расхлёбваць давядзецца самому. У кожнага сапраўднага інжынера гэта ў крыві. Інжынеры — той рэдкі тып людзей, якія цікавяцца партыйнымі праграмамі і з кім варта паспрачацца хаця б дзеля таго, каб пачуць не выплеснутыя эмоцыі, а аргументы. Ім можна лагічна абгрунтаваць беларускамоўнасць. Яны здольныя слухаць. Яны гатовыя цвяроза пагаварыць пра Бога. Для іх даступная евангельская тэхналогія адказнасці: не рабі іншым таго, чаго не жадаеш сабе.

Таму пружанскія інжынеры і разумеюць адзін аднаго з паўслова, калі перасякаюцца на складзе запчастак.

«Чуў, учора галоўрач сабраў дактароў, жонка мая была. Кажа, год эканоміі — пішыце мне заявы, што згаджаецеся дзяжурыць бясплатна». — «Ага, дык цяпер у нас замест клізмаў піпеткі будуць ставіць, раз год эканоміі?» — «Канечне, затое ў райвыканкаме эканомяць — «туарэгі» ды «лексусы» за народныя грошыкі».

Зацемім дарэчы: інжынеры, жанатыя на доктарках ды настаўніцах — з'ява наколькі тыповая, настолькі і шматзначная.

«Як жа *ён* дастаў!» — кажуць міжсобку... Не, яны глядзяць «Белсат» і чытаюць «Народную Волю», але папракаць, што адкрыта не пратэстуюць, язык не павернецца: на іх і так трымаецца якая-ніякая вытворчасць ды астатняя інфраструктура. За апазіцыю тут на словах — дык у Пружанах, акрамя словаў, ад дэмакратаў, лічы, нічога і не бачылі. Усё заканамерна — інжынер уключыцца толькі тады, калі гэта будзе мэтазгодна.

Тэхнары з прадпрыемстваў ды калгасаў, будаўнічых арганізацыяў, дарожнікі ды энергетыкі, улучна з кваліфікаванымі працоўнымі — аграмадны пласт рабочай інтэлігенцыі. Менавіта яны, інжынеры і майстры, — ключы запальвання ў махіне масавай свядомасці нацыі. Адказнасць, дакладнасць, эфектыўнае выкананне, кантроль, лагістыка, аптымальнае размеркаванне часу і сілаў, досвед, словам, уся механіка пераменаў — у руках, галовах і сэрцах гэтыхператвораных у знадрыўныя машыны мужчынаў.

Як жа шкада ўсіх, хто *адзін у полі ваяр*, выбіваецца з сілаў, аддаючы сябе жалезу, шклу ды каменю... Як шкада соцень тысячаў поўных жыцця і здольных на большае!..

Нешта паламалася ў беларусах. Пара агледзецца, абмацаць, змрочна працягнуць «О-о-ооо...», выцерці спэцканыя рукі газетай, напаўголаса буркнуць «да чаго давялі, от, гаспадары» — і брацца за справу.

І як жа патрэбная нам цяпер — і краіне, і руху, і кожнаму мястэчку — тая правільнасць і грунтоўнасць, дакладны разлік і выпрацаваная паслядоўнасць, ясны адказ і здаровы глузд, якія ўклаў у моцных і талковых тэхнароў-беларусаў Творца ўсяго існага, Галоўны Інжынер Сусвету, Гоcпад Бог....

*Куплін*

# Калі Мінск быў Нью-Ёркам

## Леанід Маракоў: За час працы з кнігай я скінуў сорак кілаграмаў

Кніга Леаніда Маракова выйшла ў апошнія дні 2012 года. Яна цалкам прысвечаная гісторыі праспекта Незалежнасці. Ён жа — Захар'еўская, Савецкая, Гітлерштрасэ, Сталіна, Леніна, Скарыны. Даследчык сабраў звесткі пра ўсе дамы, якія там стаялі, і ўсіх уласнікаў ад 1880 года. У першую частку — 300 старонак альбомнага фармату — змясціўся ўчастак ад плошчы Мяснікова да скрыжавання з Камсамольскай. Наступныя часткі рыхтуюцца да друку.

«Я працаваў па пятнаццаць гадзін штодня на працягу трох гадоў. Калі гляджу на планы Захар'еўскай, мне млосна робіцца! — эмацыйна кажа аўтар. — Гэтая праца — такі стрэс! Плюс цяжка хварэе жонка... За час пісання кнігі я скінуў сорак кілаграмаў — цяпер лётаю па лесвіцах, а раней ледзь сунуўся».

«Галоўная вуліца Мінска» выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі. У кнізе больш за чатыры тысячы планаў, фота, малюнкаў, знойдзеных у архівах Мінска, Санкт-Пецярбурга, Масквы.

Маракоў — даследчык сталінскага тэрору ў Беларусі. «Працуючы з біяграфіямі рэпрэсаваных, я неаднаразова сустракаў два словы: вуліца Савецкая, — піша аўтар у прадмове. — Не было дома, у якім не пабывалі б няпрошаныя начныя «госці»... Аднойчы я скамандаваў сабе: ты проста абавязаны распавесці пра пераследы таталітарным рэжымам жыхароў галоўнай вуліцы сталіцы Беларусі — галоўнай артэрыі Мінска. Высветліць, чаму менавіта на ёй у 1920–1930-я гады жыць было шмат небяспечней, чым на іншых?..»

Прадмову з акцэнтам на рэпрэсаваных не надрукавалі. Хоць, як адзначае Маракоў, «калі з'явіліся сігналы кнігі, першыя дзесяць асобнікаў зніклі недзе наверсе».

**«Беларуская хатка»**

Нефармальны беларускі клуб, які наведвала ўся нацыянальная інтэлігенцыя. У 1916—1917 месцілася па сённяшняй вуліцы Савецкай, пасля да 1923-га — па вул. Краснай.



**На плане «Беларуская хатка» пазначаная літарай В. Пад літарай А — камяніца па Савецкай, 2.**



**Леанід Маракоў**
нар. у 1958 у Мінску.
Пісьменнік, гісторык, даследчык сталінскіх рэпрэсіяў у Беларусі. Складальнік энцыклапедычных даведнікаў па ахвярах тэрору 1920—1950-х.



**Таямніца Кастравіцкай**

Дом №24 стаяў проста насупраць помніка Леніну. Яго гаспадыня, Ядвіга Кастравіцкая, была арыштаваная ў 1919 і абкладзеная «рэвалюцыйным падаткам» у мільён рублёў. Пасля суму зменшылі ў 40 разоў — да 25 тысяч, а самой Кастравіцкай далі магчымасць выехаць. За якія заслугі? Таямніца. Дом быў узарваны ў 1960-я. Выбухоўка ўзяла яго з пятага разу.



**Такіх фасадаў сёння на праспекце няма: дом Зялінскіх, стаяў на пл.Незалежнасці, насупраць дома па Савецкай, 19.**



**На месцы КДБ у 1930-я знаходзіўся ГУМ. Сённяшні рог праспекта і Камсамольскай.**

**«Наша Ніва»: Спадар Леанід, штуршок да напісання кнігі Вы атрымалі, вывучаючы гісторыю масавых рэпрэсій. А гісторыю праспекта пачынаеце ад 1880 года. Чаму такія часавыя рамкі?**

**Леанід Маракоў:** Бо Мінск стаў горадам у сусветным значэнні, калі праз яго паклалі чыгунку. І за 1880—1910 зрабіў такі крок, на які некаторым заходнім гарадам спатрэбіліся дзвесце гадоў. Дамы збудавалі класу люкс! Вуліца Захар'еўская, Губернатарская — будынкі былі на парадак прыгажэйшыя за цяперашнія! Як у Нью-Ёрку! [Захар'еўская — пр.Незалежнасці, Губернатарская — вул.Леніна — «НН»].

Кінатэатр братоў Вайнераў (на месцы «Цэнтральнай кнігарні») у пачатку XX ст. меў самае новае еўрапейскае абсталяванне. Паўсюль каляровыя рэкламы...

Вуліца Захар'еўская (потым Савецкая) стала галоўнай у горадзе. Самай фешэнебельнай. Тут жыла эліта — асабліва ў савецкія часы. Гэта пасля пабудавалі ёй дамы на Пуліхава...

**«НН»: А дзе былі дамы даваеннай савецкай эліты?**

**ЛМ:** 100-кватэрны Дом спецыялістаў, збудаваны ў 1935-м [стаяў на месцы сённяшняга будынка па Незалежнасці, 44, разбураны ў вайну — «НН»]. Уявіце — сто сем'яў! Тэхнічная інтэлігенцыя найвышэйшага гатунку. Але жылі і пісьменнікі — Клімковіч, Бядуля, Александровіч. Колькі яго жыхароў знішчыла НКВД! Захаваліся ўспаміны, як арыштоўвалі там сям'ю аднаго акадэміка: энкавэдысты забралі бацькоў, а двухмесячнае дзіця кінулі. Дзіця ўсю ноч надрывалася... Суседзі не спалі, але баяліся варухнуцца. Толькі раніцай прыехалі сацыяльныя службы, забралі дзіця...

**«НН»: Гісторыя якога дома галоўнай вуліцы горада найбольш уразіла Вас?**

**ЛМ:** Безумоўна, трэба адзначыць Дом-музей I з'езда РСДРП...

**«НН»: Гэта ж пасляваенны муляж. Хіба не?**

**ЛМ:** Так, сапраўдны згарэў у вайну разам з усім кварталам. І стаяў ён амаль на самой плошчы Перамогі.

Яго гісторыі прысвечана сто старонак — у другой ці трэцяй кнізе будзе. Праз той дом прайшло больш тэрарыстаў, чым сацыялістаў. І Пуліхаў бываў, і сёстры Ізмаловіч, і іншыя...

**«НН»: Яшчэ адзін будынак з падобным лёсам — «Беларуская хатка». Цяпер яна за Інстытутам культуры, а стаяла, здаецца, у раёне плошчы Незалежнасці.**

**ЛМ:** Я сантыметрамі мераў двор за домам па вуліцы Савецкай, 2, каб высветліць, дзе яна стаяла. Гэты цагляны дом таксама тых часоў. Але гэта не значыць, што ў ім Багдановіч бываў. У доме жылі генералы і чыноўнікі, а ў двары быў будыначак драўляны — «Беларуская хатка». У той час «домам» называлі не будынак, а ўчастак зямлі. І ўсім будынкам на ўчастку давалі адзін нумар.

**«НН»: Для мяне адкрыццём быў той факт, што на месцы КДБ у 1930-я знаходзіўся ГУМ.**

**ЛМ:** На месцы левага крыла, ад Камсамольскай, было Таварыства ўзаемнай пазыкі, пасля Беларускі дзяржаўны банк, а ў 1933-м зрабілі ГУМ. Адзіны ў тыя часы ўніверсам, дзе можна было купіць, напрыклад, касцюм. У дварах вакол людзі начавалі, каб раніцай чаргу заняць. Біліся кожны дзень у ГУМе — за касцюмы, за туфлі...

**«НН»: Дарэчы, пра асяродкі гандлю. Ці былі ў пачатку XX ст. у Мінску аналагі сучасных гіпермаркетаў?**

**ЛМ:** Сучасных? На месцы ўніверсама «Цэнтральны» быў гандлёвы пасаж. Увесь дом быў зроблены так, каб ты зайшоў туды голы, а выехаў на аўтамабілі і апрануты па апошняй модзе. Гэта 1907 год! Можна было ўсё купіць у адным двары! У якім сучасным гіпермаркеце такое ёсць? На тым доме было 50 рэкламных боксаў з падсветкай!

**«НН»: Калі мы кажам «ахвяры масавых рэпрэсій», звычайна маем на ўвазе нацыянальных дзеячаў, сялянства. А што стала з мінскай буржуазіяй, якая адчыняла такія пасажы?**

**ЛМ:** Багатыя недзе за год да рэвалюцыі пачалі збірацца ў дарогу — распрадавалі маёмасць і ўцякалі. Напрыклад, Поляк, гаспадар гатэля «Еўропа», з'ехаў летам 1917-га. Уся маёмасць багацеяў пасля рэвалюцыі трапіла ў рукі «пралетарскай дзяржавы». Жыць на шырокую нагу стала папросту небяспечна. Цікава, што найдаўжэй захоўваць дарэвалюцыйныя звычкі дазвалялі дактарам — высакакласным спецыялістам. Доктар Палонскі да 1926-га наймаў у доме па Захар'еўскай, 36 кватэру плошчай у 100 метраў — з пяці пакояў з кухняй і вітальняй. Цяпер на месцы таго дома — плошча Незалежнасці. У ім пасля вайны нейкі час жыла і сям'я Купалы.

**«НН»: На сённяшняй плошчы Незалежнасці жыла і самая багатая жанчына Беларусі — Магдалена Радзівіл. Той будынак ёй належаў?**

**ЛМ:** Гэта сённяшняя Савецкая, 17. Даходны дом, Магдалена Радзівіл здымала ў ім сяміпакаёвую кватэру на першым паверсе, справа ад увахода. Сюды завітвалі браты Луцкевічы, Ластоўскі, Скірмунт, Уласаў. Княгіня спрыяльна ставілася да беларускага руху. Магчыма, тут вырашаліся пытанні фінансавай падтрымкі беларускіх выданняў.

...На старых планах паказана, што пад домам падвал на ўсю шырыню будынка і нават больш. Цяпер лічыцца, што ён напалову меншы. Цікава — што ў другой палове?

**«НН»: На самым пачатку працы з кнігай Вы заходзілі ў рэдакцыю «НН», паказвалі з многіх лістоў склееныя скрутак-план праспекта з пазначэннем дамоў. Выглядала, мякка кажучы, сумнеўна…**

**ЛМ:** Калі я пачынаў, Віталь Скалабан казаў мне: «Лёня, нічога не выйдзе. Я дайшоў толькі да восьмага дома». Сапраўды, так усё перабудоўвалася, так руйнавалася ўвесь час... Я вырашыў: удасца сабраць інфармацыю там, дзе нічога не засталося — па плошчы Незалежнасці, — удасца і далей. Калі пабачыў у выдавецтве кнігу, сам не верыў, што я гэта зрабіў.

**Гутарыў Сяргей Мікулевіч**




Леанід Маракоў. Галоўная вуліца Мінска 1880—1940 гг./ Кніга 1. — Мінск: «Мастацкая літаратура», 2012.

## ФУТБОЛ

### 6 тур

**27—28 красавіка** адбудуцца матчы чарговага тура чэмпіяната краіны.
**У суботу** сустрэнуцца:
«Белшына» (Бабруйск) — «Нафтан» (Наваполацк);
«Нёман» (Гродна) — «Дняпро» (Магілёў);
БАТЭ (Барысаў) — «Мінск».
**У нядзелю:**
«Дынама» (Брэст) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Дынама» (Мінск) — «Гомель» (цэнтральная гульня тура);
«Славія» (Мазыр) — «Шахцёр» (Салігорск).

## ГАНДБОЛ

### Паўфінал Кубка Выкліку

**28 красавіка ў Палацы спорту** пройдзе матч у адказ Кубка Выкліку. Супернік — нарвежскі «Рунар». Пачатак а 15.00. Першы матч беларусы выйгралі — 32:29.

## КАНЦЭРТЫ

### Вяртанне легенды

**6 мая а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** зайграюць «Крама», Neuro Dubel, :B:N: і Pomidor/OFF.

### Паліна Рэспубліка

**25 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — спявае Паліна Рэспубліка.

### Аляксандра і Канстанцін

**1 мая а 19-й у Loft cafe (Броўкі, 22)** — дуэт «Аляксандра і Канстанцін» пры ўдзеле запрошаных музыкаў прадставіць ужывую свой новы альбом «M1».

### Вясна by

**2 мая а 20-й у рок-клубе TNT (Рэвалюцыйная, 9)** — «Вясна by». Вас чакаюць фолк-мадэрн «Палаца», шляхетныя танцы «Яварыны» і сярэднявечная электроншчына ад PAWA.

### АГА

**27 красавіка а 17-й у музеі Азгура (вул.Азгура, 8)** — фестываль імправізацыйнай музыкі «АГА». Бяруць удзел «Сонцакветкі», «Князь Мышкін», «Улад Бубен», Generation Skweee, Cholotrope.

### Першая сцім-панк-вечарынка ў Мінску

**25 красавіка а 19-й у «Салтайме» (пр.Незалежнасці, 131/1)** — сцім-панк вечарына. Толькі на гэты вечар музычны клуб ператвараецца ў палубу дырыжабля, а ўсе прысутныя становяцца камандай і пасажырамі паветранага карабля.

### Мутнаевока

**26 красавіка а 19-й у Моладзевым тэатры эстрады** — «Мутнаевока».

## ІМПРЭЗЫ

### Вечар паэзіі і музыкі ў Віцебску

**30 красавіка а 20.30 у Віцебску ў бітлз-клубе «Паддашак» (Кастрычніцкая, 12)** — вечар паэзіі і музыкі. У праграме музыка ад Паліны Рэспублікі, Recha, Chaotic Orchestra, а таксама паэзія ад Андрэя Хадановіча.

### Вандроўныя лялькі Пана Пежо

**25 красавіка а 19-й у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** пачнецца адкрытая лекцыя «Тэатр «Вандроўныя ляльці Пана Пежо»: 20 гадоў служэння вуліцы» і прагляд відэаспектакля «Магота».

### Напрыканцы канца...

**Па 15 мая ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці,47)** праходзіць Міжнародны фестываль савер-сізму і ігдрасілізму ДАХ-КРАХ-XX «Напрыканцы канца...». ДАХ нарадзіўся ў берлінскай арт-сядзібе «Тахелес» у 2001 годзе, дзе ўпершыню прайшоў як, магчыма, адна з самых буйных выставак беларускага мастацтва па-за межамі краіны.

## ВЫСТАВЫ

### Скарбы шляхецкіх архіваў

**Да 12 мая ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Скарбы шляхецкіх архіваў» — з прыватнага збору Ігара Сурмачэўскага.

### Пуцін з воску

**Да 12 чэрвеня ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Гістарычная мазаіка» — сумесны праект з музеем гісторыі Санкт-Пецярбурга «Петрапаўлаўская крэпасць». На экспазіцыі паказаныя васковыя фігуры дзяржаўных, палітычных дзеячаў Расіі ад Пятра I і да Уладзіміра Пуціна.

### Кніжная спадчына Радзівілаў

**Да 12 мая ў Нясвіжскім палацавым ансамблі** працуе выстава «Кніжная спадчына Радзівілаў». 90 рэдкіх кніг з княжацкай бібліятэкі на некаторы час вернуцца ў сцены былой рэзідэнцыі «некаранаваных каралёў».

### Традыцыйнае і не

**Да 2 мая ў галерэі «Мастацтва» (пр.Незалежнасці, 12)** працуе выстава жывапісу Андрэя Равякова і Станіслава Сугінтаса «Традыцыйнае і не».






### Накаўт-шоу

**27 красавіка ў Палацы спорту (пр.Пераможцаў, 4)** пройдзе турнір сярод наймацнейшых байцоў Беларусі, СНД і Еўропы па правілах K-1 і тайскага бокса. Пачатак а 18.00. Квіткі — ад 50 тысяч.

## ТЭАТРЫ

### 25 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Оперы і балета** — «Метамарфозы»

### 26 красавіка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»
**Лялек** — «Ладдзя Роспачы»
**Оперы і балета** — «Метамарфозы»

### 27 красавіка

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Оперы і балета** — «Метамарфозы»

### 28 красавіка

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Оперы і балета** — «Метамарфозы»

### 29 красавіка

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы балета** — «Турандот»

### 30 красавіка

**Лялек** — «Сіняя птушка»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»

### 2 мая

**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 3 мая

**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 4 мая

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 5 мая

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»

## КІНО

### Ку! Кін-дза-дза

**Жанр:** мультфільм, фантастыка, камедыя
**Рэжысёр:** Георгій Данэлія, Таццяна Ільіна
Расія, 2013 г., 100 хв.

Дыджэй-пачатковец Толік і сусветна вядомы віяланчэліст Уладзімір Чыжоў сустракаюць на тлумнай маскоўскай вуліцы босага чалавека. Націснуўшы на кнопку дзіўнай машынкі, героі трапляюць на пустынную планету Плюк... Анімацыйны рэмейк фільма «Кін-дза-дза!» не менш займальны і смешны за арыгінал. У гэтым свеце пяску жыхары дзеляцца на дзве катэгорыі — пацакі і плюкане, простая запалка мае неверагодную каштоўнасць, а людзей сустракаюць і праводзяць па колеры штаноў.
Фільм «Кін-дза-дза» быў пародыяй на савецкую рэчаіснасць, за гэта яго любілі і расцягвалі на цытаты. У сучасным мультфільме аўтары трохі змянілі акцэнты: за фантастычным сюжэтам хаваецца алегорыя на пуцінскую Расію.



# Ці пагражаюць бабры чалавеку?

Жывёла не нападае першай, але можа **даць адпор**.



Нядаўна ў сеціве выбухнула навіна: у Камянецкім раёне бабёр напаў на берасцейца і пракусіў яму сцягновую артэрыю. Мужчына памёр ад страты крыві. Як пісаў «Брэсцкі кур'ер», трое сяброў вырашылі паехаць на рыбалку на возера Шастаковічы. Па дарозе яны ўбачылі вялікага бабра, адзін вырашыў сфатаграфавацца з ім...

Некаторыя СМІ падалі сітуацыю так, быццам бабёр сам кінуўся на чалавека. Але ж гэтая жывёліна не драпежнік. Ці характэрныя такія паводзіны для баброў?

### Бабёр драпежны

«Большасць жывёл, калі яны не хворыя, схільныя абыходзіць чалавека, — тлумачыць старшы навуковы супрацоўнік НПЦ НАН Беларусі па біярэсурсах Рыгор Янута. — На беразе бабёр —лёгкая здабыча для ворагаў, таму, калі ёсць магчымасць, ён хаваецца ў ваду ці збягае ў яе напрамку.

У выпадку з рыбакамі ён мог быць адрэзаны ад вады і, каб неяк абараніцца, напаў на чалавека. Але такія паводзіны для бабра нехарактэрныя. Калі ён можа збегчы, у 99% выпадкаў ён гэта зробіць. Я сам працую з бабрамі ад 2001 года, і ў маёй практыцы бабёр ні разу не нападаў, хоць я быў дастаткова блізка, за 3—4 метры».

Паляўнічыя распавядаюць, што, калі выпадкова праваліцца ў бабровую нару, яе гаспадар можа ўкусіць за нагу. Але гэта ад стрэсу, бо любая загнаная ў кут жывёла будзе паводзіць сябе агрэсіўна.

«У бабра зубы заўсёды вострыя, бо ён іх точыць, і нават костку перакусіць яму нескладана: шырыня захопу — 2 см, а глыбіня — каля 2,5 — 3 см, — апавядае Рыгор Янута. — Акрамя таго, гэтая жывёла не вельмі добра бачыць праз асаблівасці чэрапа, але слых і нюх развітыя добра».

Ці магчымае ў баброў шаленства? Любое млекакормячае можа быць шалёным, кажа спецыяліст. Для гэтага трэба, каб яно з'ела хворую на шаленства жывёлу. Але бабёр – выключна раслінаядная жывёла, і прамых пагроз захварэць у яго няма. Таму непакоіцца пра гэта не трэба.

### Бабёр на паляванні

У Беларусі існуе Указ №580 «Аб некаторых мерах па павышэнні эфектыўнасці вядзення паляўнічай гаспадаркі і рыбагаспадарчай дзейнасці, удасканаленні дзяржаўнага кіравання імі», з часам ён рэдагуецца, бо колькасць жывёл змяняецца.

«Раней на бабра палявалі пасткавым спосабам і толькі з егерам, ён павінен быў расстаўляць пасткі ў прысутнасці паляўнічага. Цяпер правілы значна спрасцілі, ісці на бабра можа кожны, у каго ёсць ліцэнзія. Яна каштуе 50 тысяч рублёў.

Калі дазволіць паляванне на бабра любым спосабам, то праз 5—6 год іх колькасць зноў паменшыцца, як у 1990-я, калі бабёр быў вельмі рэдкі. Але тады яго футра каштавала $20—30 — адну месячную зарплату, і знаходзілася шмат аматараў здабыць яго, у тым ліку нелегальна.

Цяпер бабровая струя, мяса і футра ўжо не ўяўляюць такой каштоўнасці.

Баброў апошнім часам стала значна больш, і гэта праблема. Па афіцыйных дадзеных, у Беларусі іх каля 65 000 асобін. У суседніх Польшчы і Расіі гэтых жывёл таксама зашмат.

**Спаткаўшы бабра, найлепш проста сысці з яго дарогі і назіраць з адлегласці ў 20—30 метраў**

Ці ёсць спосаб рэгуляваць іх колькасць, не вынішчаючы брутальна? «Прырода сама ўсталюе неабходны баланс, — канстатуе Рыгор Янута. — Для бабра, як і для любой жывёліны, характэрныя пікі і спады колькасці, яны цыклічныя. Магчыма, з'явіцца нейкае захворванне, уласцівае выключна для грызуноў. У выніку колькасць баброў зменшыцца, але пасля павялічыць яе будзе складана, таму лепей адрэгуляваць гэтае пытанне чалавеку . На маю думку, яго трэба актыўна здабываць, але не бяздумна, як гэта робіць у нас».

### Бабёр сацыяльны

Паколькі ў Беларусі ёсць лішак баброў, пры рассяленні жывёла шукае любое месца, дзе можа засяліцца. Малады бабёр імкнецца знайсці зацішнае месца, у якім ёсць корм. Таму апошнім часам бабёр займае нехарактэрныя для яго месцы рассялення, у прыватнасці, меліярацыйныя сістэмы. Зараз яны ў меншай ступені выкарыстоўваюцца і аднаўляюцца, таму берагі зарастаюць вербняком, а гэта вабіць баброў.

Бабёр можа жыць і каля пасялення чалавека, калі там на яго ніхто не палюе. Часам яму нават больш выгодна пасяліцца побач з людзьмі, бо туды рэдка заходзяць воўк, рысь, ліса і іншыя драпежнікі. Некаторы час бабры жылі нават каля ачышчальных станцый у мінскім раёне Шабаны.

Для лясных гаспадарак бабёр шкодны, бо падтаплівае прыбярэжныя тэрыторыі, але найчасцей гэта здараецца з меліярацыйнымі сістэмамі, якія былі створаныя чалавекам. Таму гэта вяртанне да папярэдняй стадыі біятопа.

Такім чынам, сустрэць бабра ў горадзе ці вёсцы рэальна. Найлепшы варыянт у гэтым выпадку — проста адысці ўбок і назіраць здалёк, з 20—30 метраў. Таксама спецыялісты раяць патэлефанаваць паляўнічаму альбо ў інспекцыю прыродных рэсурсаў, каб бабра злавілі.

**Настасся Храловіч**

**Актыўнасць баброў за апошні месяц***

Бабры «адабралі»жыллё ў пенсіянера ў Ніжагародскай вобласці

Бабры арганізавалі ДТЗ ва Украіне

Кульгавы бабёр загнаў ветэранара і котку ў кут

*загалоўкі расійскіх і ўкраінскіх СМІ

**Статут ВКЛ: баброў прыраўнялі да сялян**

Статут ВКЛ 1588 г. (Частка 10. Арт. 9 «Пра бабровыя гоны») прадугледжваў адказнасць за шкоду, зробленую бабрам. Той, хто патурбуе баброў на чужой зямлі — згоніць з месца, — павінен быў плаціць дванаццаць рублёў. Той, хто заб'е, плаціў за чорнага бабра чатыры капы (адна капа — шэсцьдзясят грошай, рубель — сто) грошай, за рудога бабра — дзве капы.

Для параўнання, штраф за забойства зубра ў тыя часы складаў дванаццаць рублёў, за мядзведзя — тры. За селяніна — 20 коп (тыя ж дванаццаць рублёў).

# Найстарэйшаму жыхару Зямлі споўнілася 116 гадоў

Японец Дзіраэмон Кімура пачаў **вучыць англійскую**, каб быць у тонусе.

Японец Дзіраэмон Кімура нарадзіўся ў 1897-м годзе і з'яўляецца адным з 12 чалавек на Зямлі, якія нарадзіліся яшчэ ў XIX ст. Да таго ж, з усіх 12-ці ён адзіны мужчына.

Усё сваё жыццё Дзіраэмон адпрацаваў на пошце горада Кэтанга ў прэфектуры Кіёта. Пасля сыходу на пенсію мужчына займаўся фермерствам. Апошнія некалькі гадоў ён закінуў гэту справу, але пачуваецца бадзёра.

Японец мяркуе, што дажыць да такога сталага веку яму дапамагла збалансаваная дыета, а таксама пастаяннае імкненне падтрымліваць свой розум у тонусе. Напрыклад, нядаўна ён пачаў вучыць англійскую мову.

Рэкардсмена-доўгажыхара падтрымлівае вялікая сям'я. Цяпер у яго 14 праўнукаў, 25 прапраўнукаў і 13 прапрапраўнукаў, а жыве ён у сям'і сына.

**АГ**

**Нашы рэкардсмены**

На стане на канец мінулага года, у Беларусі жылі 12 чалавек, старэйшыя за 110 гадоў. Усе яны жанчыны. Сем з іх жывуць на Гродзеншчыне, чатыры на Міншчыне, адна на Брэстчыне.



SUN



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**20 красавіка прайшоў агульнарэспубліканскі суботнік. Паводле афіцыйных звестак, зароблена 53 млрд рублёў. Улічваючы, што ў рэспубліканскім суботніку ўзялі ўдзел 3 млн 615 тыс. чалавек, то выходзіць, што кожны ўдзельнік зарабіў па 14 тыс. 661 рублі. На фота: студэнткі мятуць ля будынка оперы.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У нядзелю ў парку 50-годдзя Кастрычніка ў Мінску прайшло афіцыйнае адкрыццё веласезона. Хлопцы з каманды Minsk-trial прадэманстравалі свае майстэрства ў велатрыял-шоу.**



**Папа Францішак даў магчымасць падзарабіць вытворцам сувеніраў. У Бразіліі, куды Францішак прыедзе ў ліпені на каталіцкі Дзень моладзі ў Рыа-дэ-Жанейра, вытворчасць масак новага Папы паставілі на канвеер. На фота: зборачная лінія ў Сан-Гансалу.**



СЯРГЕЙ ПЛЫТКЕВІЧ.

**Зубраняты вучацца лётаць.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Калі зіма жартавала да сярэдзіны красавіка, хай лета помсціць да сярэдзіны лістапада...

* * *

— Тата, што такое опера?

— Гэта, сынку, такі спектакль, які пачынаецца а сёмай, і, калі ты праз тры гадзіны глядзіш на гадзіннік, ён паказвае 7.20.

* * *

У прусака, які жыве ў клавіятуры, паўсюль вісяць папераджальныя шыльды: «Калі юзар друкуе, пад клавішамі не гуляць».

* * *

Урок беларускай мовы:

— Пятрэня, якія ты ведаеш прыстаўкі?

— Playstation3, Nintendo Wii, Xbox360...

* * *

Сёння зрабіла добрую справу! Гуляла раніцай са сваім пітбулем.

Гляджу, мужчына да прыпынку бяжыць, аўтобус даганяе. Ну, я сабаку з ланцуга спусціла. Паспеў мужчына на аўтобус...

* * *

У нас свабода сумлення.

Хочаш — май сумленне, а хочаш — не май.

* * *

А вы таксама робіце музыку гучней, каб суседзі зрабілі цішэй?

* * *

Фатограф на вяселлі:

— А дзе ж наша шчаслівая пара?

Адзін з гасцей:

— Ды вось жа яны: нявеста і яе мама...

* * *

Толькі ў Беларусі асабліва буйныя памеры крадзяжоў лічацца змякчальнай акалічнасцю.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Губернатар увольніў нядаўна яшчэ двух «пестункоў» былага губернатара Эрдэлі — мозырскага спраўніка Хацяновіча і слуцкага спраўніка Аляксеева. Аляксееў — швагер мінскага паліцмайстра.

**«НН». №16—17. 1913.**

**Tut.by па-беларуску.** Кірыла Валошын: «Значная частка карыстальнікаў tut.by даўно хацела бачыць беларускамоўны інтэрфэйс нашай пошты. Як толькі гэта стала магчымым, мы зрабілі пераклад».

**«НН». №16. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8006. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 23.04.2013.
Замова №1597.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614